МЕНСК

# Шляхі калектывізацыі

8



1931

# Арганізацыя пралетарска-калгасных пісьменьнікаў БССР.

У канцы красавіка м-ца гэтага году адбыўся агульны сход пісьменьнікаў гораду Менску, на якім былі заслуханы даклады прадстаўнікоў ЦК Усерасійскага аб'яднаньня пралетарска-калгасных пісьменьнікаў т.т. **Багданава і Егорашвілі.**

Сход вынес пастанову аб арганізацыі беларускага аб'яднаньня пралетарска-калгасных пісьменьнікаў. Для гэтай мэты абрана арганізацыйнае бюро ў складзе т.т. **Шукевіча-Трацьцякова, Барашка, Галавача, Баранавых** і адказнага рэдактара газэты „Калгасьнік Беларусі". На оргбюро ўскладзен абавязак арганізацыі філій пралетарска-калгасных пісьменьнікаў, у першую чаргу ў Менску, Віцебску, Полацку, Бабруйску і Гомелі. Акрамя таго, будуць створаны літаратурныя гурткі ў буйнейшых саўгасах і калгасах, МТС і пры сельска-гаспадарчых навучальных установах. Аб'яўляецца заклік калгасьнікаў і саўгасных рабочых у літаратуру.

У хуткім часе будзе склікан Усебеларускі зьезд пралетарска-калгасных пісьменьнікаў, дзе будуць абраны цэнтральныя органы аб'яднаньня.

Аб'яднаньнем будзе выдавацца адзін раз у месяц грамадзка-палітычная і літаратурна-мастацкая часопісь, у якой вялікае месца будзе адведзена вучобе пачынаючых паэтаў і пісьменьнікаў.

**Наркамзем, Белкалгасцэнтр і ўся калгасная сыстэма павінны дапамагчы маладой арганізацыі—Беларускаму аб'яднаньню пралетарска-калгасных пісьменьнікаў.**

---

# Сацспаборніцтва на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы.

## Чырвонаармейская камуна

*(Ветрынскі раён)*

Камуна добра падрыхтавалася да веснавой сяўбы, поўнасьцю адрамантаван сельска-гаспадарчы інвэнтар, рабочая сіла разьбіта на брыгады і кожны камунар ведае свой абавязак у час сяўбы. Прыведзены ў баявую гатоўнасьць трактары. Вытворчы плян прадугледжвае значнае пашырэньне пасеўнай плошчы ў гэтым годзе.

Камуна выклікала на сацспаборніцтва на лепшае правядзеньне веснавой сяўбы ўсе бліжэйшыя калгасы Ветрынскага раёну.

**Ц. В.**

## КАЛГАСЫ ІМЯ СТАЛІНА і КІМ.

*(Заслаўскі раён)*

Калгасы заключылі паміж сабой дагавор сацспаборніцтва на поўнае і своечасовае выкананьне намечаных плянаў веснавой сяўбы.

Пробны выезд у поле паказаў, што пляны сяўбы ў гэтых калгасах будуць выкананы поўнасьцю.

**Р. В.**

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60 | № 8—КРАСАВІК—1931 | ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

# Выканаць дырэктывы партыі

**Веснавая пасеўкампанія 1931 г. зьяўляецца генэральнай праверкай баяздольнасьці ўсёй КП(б)Б, яе ўменьня змагацца за генэральную лінію партыі і ажыцьцяўленьне гэтай лініі на практыцы. Гэты экзамен КП(б)Б павінна вытрымаць.**

## АБ ПРАВЕРЦЫ ПАДРЫХТОЎКІ ДА ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ

*(Пастанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК КП(б)Б)*

1. Заслухаўшы даклад т. Рачыцкага аб ходзе калектывізацыі і становішчы падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі, аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прызнае сучасныя тэмпы калектывізацыі (21,8 проц. на 5-IV—31 г. па БССР) і падрыхтоўкі да веснавой сяўбы (арганізацыя працы і перавод калгасаў на зьдзельшчыну, насеньне, цягавая сіла, кантрактацыя)—*нездавальняючымі.*

Такім чынам, дырэктывы студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб сваячасовым разгортваньні масавай падрыхтоўкі да сяўбы і ўвязцы гэтай работы з калгасным прылівам—ня выкананы. *Фактычна ні калгасы, ні тым больш індывідуальны сэктар сельскай гаспадаркі да сяўбы не падрыхтаваны.*

2. Побач з раёнамі, якія разгарнулі сапраўдную бальшавіцкую работу па арганізацыі калгаснага прыліву (па 19 раёнах калектывізавана звыш 30 проц. гаспадарак, у тым ліку па Лепельскім—51,5 проц., Клімавіцкім—51,1 проц. Крычаўскім—41,6 проц.), маюцца раёны, якія ганебна адстаюць па калектывізацыі (Гарадоцкі—7,8 процантаў, Гомельскі—

9,7 процантаў, Рэчыцкі—11 проц., Межанскі—11,3 проц., Бабруйскі--12,5 проц.). Пленум лічыць *зусім недапушчальным адставаньне ў галіне калектывізацыі* раду гарадзкіх раёнаў (Гомельскі, Рэчыцкі, Бабруйскі, Барысаўскі, Віцебскі), процант калектывізацыі ў якіх значна ніжэй сярэдня-рэспубліканскага. Таксама ў большасьці раёнаў дзейнасьці МТС тэмпы калектывізацыі яўна нездавальняючыя (у сярэднім—23,9 проц. па 30 раёнах дзейнасьці МТС). Гэта сьведчыць аб тым, што партарганізацыі гэтых раёнаў не скарысталі МТС, як магутны сродак для разгортваньня калгаснага будаўніцтва.

3. Важнейшымі прычынамі такога становішча тэмпаў калектывізацыі і падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі зьяўляюцца наступныя:

а) Ня былі прыняты сваячасова неабходныя меры да разгортваньня масавай работы сярод бядняцка-серадняцкіх гаспадарак на арганізацыі калгаснага прыліву, а таксама недастаткова рашуча выконваліся дырэктывы ЦК аб шчыльнай увязцы працы па калектывізацыі з правядзеньнем усіх чарговых гаспадарча-палітычных кампаній. Пасьля ліквідацыі перагібаў мінулага году ў калгасным руху ў цэлым радзе раёнаў *замест арганізацыі калгаснага прыліву* панавала, а ў некаторых раёнах і цяпер пануе праваапартуністычная стаўка на самацёк.

б) У радзе раёнаў не зразумелі важнасьці напружаных тэмпаў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, што знайшло сваё адлюстраваньне ў імкненьні гэтых раёнаў паменшыць пляны пасеўнай кампаніі. Замест мабілізацыі мас на разгортваньне падрыхтоўчай работы да веснавой сяўбы, мелі і яшчэ маюць месца праваапартуністычныя—дэмобілізацыйныя настроі ў адносінах выкананьня задач веснавой пасеўнай кампаніі 1931 году.

в) Партарганізацыі не паставілі на належную вышыню і ў цэнтры ўвагі масавую работу сярод беднаты, сераднякоў і калгасьнікаў. Пастановы сьнежанскага пленуму ЦК УсеКП(б) і студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б і асабліва пастановы VI зьезду саветаў, дэкрэт аб контрактацыі і аб адзіным сель.-гасп. падатку да гэтага часу не растлумачаны шырокім масам бядняцка-серадняцкага сялянства і калгасьнікам. Замест настойлівай і цярплівай растлумачальнай работы і канкрэтнага растлумачэньня задач партыі, яе важнейшых мерапрыемстваў існуюць шматлікія *выпадкі камандаваньня і голага адміністраваньня* ў адносінах да бядняцка-серадняцкіх мас.

г) Прарывы ў падрыхтоўцы веснавой сяўбы зьяўляюцца і вынікам таго, што цэнтральныя ўстановы не змаглі паставіць сыстэматычнага апэрацыйнага кіраўніцтва, праверкі выкананьня сваіх дырэктыў і дапамогі раёнам. Раёны ня здолелі забясьпечыць перагрупоўкі сваіх сіл, перабудовы свайго апарату і замест дзелавой і канкрэтнай дапамогі ячэйкам і сельсаветам, шмат засядаюць, пішуць і прымаюць доўгія, нікому непатрэбныя рэзалюцыі.

д) Змаганьне партыі за сапраўды бальшавіцкія тэмпы калектывізацыі, выкананьне загатовак, падрыхтоўка да веснавой сяўбы і кантрактацыя выклікае асабліва жорсткае супраціўленьне кулацтва і значна абвастрыла клясавую барацьбу на вёсцы. Між тым рад раёнаў не вядзе сыстэматычнай і ўпартай барацьбы з кулаком і яго агентурай, або зусім не знаходзіць кулака. Некаторыя раёны аказаліся няздольнымі выкрыць манэўры кулака, мабілізаваць масы для таго, каб зламаць яго супраціўленьне і забясьпечыць баявыя тэмпы калектывізацыі і падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

е) Важнейшай прычынай прарываў як у галіне калектывізацыі, так і ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы зьяўляецца зусім недастатковая ўвага, а ў цэлым радзе месц простае ігнараваньне аднаасобнага сэктару сельскай гаспадаркі.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК папярэджвае ўсе партарганізацыі, што маючыяся прарывы ў галіне разгортваньня калектывізацыі, падрыхтоўкі да веснавой сяўбы і кантрактацыі, паставілі пад пагрозу зрыву выкананьне плянаў веснавой пасеўнай кампаніі і выкананьне ўзятых тэмпаў калектывізацыі. Пленум зьвяртае ўвагу ўсіх партарганізацый, рабочых, калгасьнікаў,

беднякоў і сераднякоў — аднаасобнікаў, усіх савецкіх, гаспадарчых, каапэрацыйных, прафэсыянальных, камсамольскіх і грамадзкіх арганізацый на тое, што ў галіне калектывізацыі і падрыхтоўкі да сяўбы БССР адстае ў параўнаньні з радам іншых рэспублік і абласьцей.

II

Пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б прапануе ўсім партарганізацыям на працягу бліжэйшых дзён рашуча перабудаваць усю работу па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы і забясьпечыць разгортваньне сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў падрыхтоўкі на аснове выкананьня пастаноў VI-га Усесаюзнага зьезду саветаў і апошняга ліста ЦК УсеКП(б).

З прычыны зацяжкі вясны і ў зьвязку з гэтым скарачэньня тэрмінаў засеву, работа па падрыхтоўцы сяўбы павінна праводзіцца асабліва ўдарным парадкам.

Неабходна ўсю асноўную ўвагу партыйнай арганізацыі сканцэнтраваць на павышэньне тэмпаў калектывізацыі і, асабліва ў адстаючых раёнах, на поўнае выкананьне ў вызначаны тэрмін плянаў кантрактацыі, пераход на зьдзельшчыну ў калгасах і саўгасах, на стварэньне насенных і кармавых фондаў, на падрыхтоўку цягавай сілы і на ліквідацыю абязьлічкі ў скарыстаньні трактараў і конскай цягавай сілы. Пленум прапануе ўсім партарганізацыям правесьці шырокую праверку падрыхтаванасьці да сяўбы калгасаў, саўгасаў, МТС і аднаасобнага сэктару, арганізоўваючы ў гэтых мэтах пробныя выезды ў поле, разгарнуць соцспаборніцтва і ўдарніцтва вакол выкананьня задач падрыхтоўкі сяўбы, скончыць падрыхтоўку збруі, інвэнтару і харчовых рэзэрваў.

1. Важнейшай задачай партыйных арганізацый зьяўляецца разгортваньне далейшай бязьлітаснай барацьбы з права-апартуністычнай недаацэнкай неабходнасьці напружаных тэмпаў калектывізацыі і выкананьня праграмы веснавой сяўбы. Партарганізацыі павінны шырока разгарнуць масавую растлумачальную работу сярод беднякоў і сераднякоў — аднаасобнікаў па ўцягненьні іх у калгасы. Работу па калектывізацыі ні ў якім разе не адрываць ад гаспадарчага замацаваньня арганізаваных калгасаў (абагуленьне цягавай сілы, інвэнтару, кармоў і насенных фондаў). Разам з тым, пленум зварачае ўвагу раённых арганізацый і зямельных органаў на неабходнасьць своечасовага афармленьня новых калгасаў: рэгістрацыя, адвод зямель да веснавой сяўбы і інш.

Пленум адзначае, што дырэктывы ЦК аб ачыстцы калгасаў ад кулацкіх элемэнтаў у цэлым радзе раёнаў ня выкананы і гэта праца недаацэнена і зварачае ўвагу на неабходнасьць правядзеньня рашучай ачысткі калгасаў ад кулацкіх элемэнтаў і на разгортваньне бязьлітаснай барацьбы з безгаспадарчасьцю ў калгасах.

Пленум даручае Белкалгасцэнтру і райкомам КП(б)Б працягваць пасылку брыгад калгасьнікаў з перадавых раёнаў і калгасаў у адстаючыя па калектывізацыі раёны для садзейнасьці разгортваньню калгаснага руху і перанясеньня лепшага вопыту ва ўсе раёны і калгасы, і абавязвае не пазьней 15-га красавіка выканаць дырэктыву аб перакідцы „25-тысячнікаў“ на калгасную работу.

2. Пляны загатовак насеньня ня выкананы. Асабліва маруднымі тэмпамі праходзяць загатоўкі насеньня кармавых траў. Раённыя арганізацыі не зварачаюць належнае ўвагі па абагульваньне насеньня новых калгасаў і на мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў. Усё гэта стварае пагрозу зрыву плянаў пасеву. Трэба разгарнуць самаю бязьлітасную барацьбу з утрыманчымі настроямі ў адносінах насеньня. Пасевы павінны ў першую чаргу быць забясьпечаны за лік мабілізаваных насенных рэсурсаў унутры раёнаў.

Наркамзему, Наркамснабу і Белкалгасцэнтру да 1 мая скончыць перакідку насеннага матар'ялу ў вызначаныя па пляне раёны.

3. У сувязі з рашаючым значэньнем, якое мае падрыхтоўка цягавай сілы да веснавой сяўбы, пленум прапануе ўсім раённым арганізацыям і цэнтральным установам па-бальшавіцку ўзяцца за падрыхтоўку цягавай сілы і за стварэньне кармавых фондаў на час весна-

вых работ, вядучы рашучую барацьбу з усялякімі праявамі недаацэнкі гэтай важнейшай справы. Пленум лічыць мэтазгодным арганізаваць конскія калёны ў раёнах да веснавой сяўбы за лік транспарту, дзяржаўных і каапэрацыйных устаноў і даручае Наркамзему, Белкалгасцэнтру і раённым арганізацыям ужыць усе практычныя захады па ажыцьцяўленьню гэтага мерапрыемства.

4. Перавод калгасаў на зьдзельшчыну праводзіцца маруднымі тэмпамі. Белкалгасцэнтр і раённыя арганізацыі ня ўжылі ўсіх неабходных мер да таго, каб пастановы VI Усесаюзнага зьезду саветаў былі абгавораны ва ўсіх калгасах, каб былі ўнесены зьмены ў п. п. 14-15 статуту с.-г. арцеляй, распрацаваны і прыняты калгасьнікамі нормы выпрацоўкі і расцэнкі работ у працаднёх.

Выходзячы з гэтага, пленум прызнае работу Калгасцэнтру па пераводзе калгасаў на зьдзельшчыну нездавальняючай.

Пленум ЦК і ЦКК прапануе ўсім партарганізацыям Белкалгасцэнтру і Трактарацэнтру забясьпечыць хутчэйшы перавод усіх калгасаў і МТС на зьдзельшчыну з улікам работы ў працаднёх, дапамагчы калгасам правільна арганізаваць працу (брыгады) і мэтазгодна расставіць усе сілы, шырока растлумачыўшы масам калгасьнікаў асноўны прынцып разьмеркаваньня калгаснага даходу—„хто больш і лепш працуе, той больш атрымае“.

На сходах усіх сельскіх і калгасных ячэек да першага мая паставіць і канкрэтна абгаварыць пытаньні аб пераходзе калгасаў на зьдзельшчыну і аб арганізацыі працы ў калгасах, згодна палажэньняў VI зьезду саветаў. Калгасцэнтр павінен узмацніць выданьне брашур і лістоў папулярнай літаратуры, прысьвечанай практычнаму ажыцьцяўленьню пастановы пленуму аб увядзеньні зьдзельшчыны і ўзмацненьні дысцыпліны працы ў калгасах.

Пленум даручае Калгасцэнтру прыняць рашучыя захады па спэцыялізацыі калгасаў.

Пленум даручае Наркамзему, Саўгасаб'яднаньням і Белкаапсаюзу перавесьці ў самы кароткі тэрмін усе саўгасы і прыгарадныя гаспадаркі на гаспадарчы разрахунак і зьдзельную аплату працы.

Адначасова Белкаапсаюз павінен прыняць усе меры для падрыхтоўкі прыгарадных гаспадарак да веснавой пасеўнай кампаніі, выкарыстоўваючы дапамогу прафсаюзаў і іншых грамадзкіх арганізацый (дэлегацкія жаночыя сходы, добраахвотныя таварыствы і інш.).

5. Пленум ЦК і ЦКК адзначае, што ў большасьці раённых арганізацый не вядзецца барацьбы з недаацэнкай значэньня кантрактацыі і праваапартуністычнай стаўкі на самацёк, што замест масавай работы вакол контрактацыі мае месца фармальна-бюракратычны падыход да справы. У выніку ўсяго гэтага выкананьне пляну контрактацыі асабліва ў індывідуальным сэктары праходзіць зусім нездавальняюча. Пленум прызнае работу Наркамснабу, Наркамзему, Белільнасаюзу, Белмалжывёлсаюзу і Садагародсаюзу ў галіне кантрактацыі нездавальняючай.

Пленум ЦК і ЦКК абавязвае райкомы РВК, Наркамснаб, Белкаапсаюз і спэцыяльныя віды с.-г. каапэрацыі неадкладна дабіцца карэннага пералому ў рабоце па кантрактацыі, весьці самую рашучую барацьбу з кулацкай агітацыяй, расхлябанасьцю, з настроямі самацёку і фармальна-бюракратычным падыходам да правядзеньня кантрактацыі. Пленум абавязвае поўнасьцю выканаць наступныя дырэктывы ЦК УсеКП(б): „Тэрмін 15 красавіка для сканчэньня кантрактацыі збожжавых і 5 мая для сканчэньня кантрактацыі ільну зьяўляецца канчатковым. Парушэньне гэтых тэрмінаў не павінна быць дапушчана ні ў якім разе“. Уся партыйная арганізацыя павінна зрабіць растлумачэньне адозвы партыі і ўраду аб кантрактацыі, як магутнай зброі ў барацьбе за правядзеньне другой калгаснай бальшавіцкай вясны.

6. Пленум канстатуе, што дырэктыва студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы індывідуальнага сэктару да веснавой сяўбы ня выканана. Пленум абавязвае райкомы, Наркамзем, раённыя арганізацыі і сельскія саветы максымальна разгарнуць арганізацыйна-

масавую работу сярод індывідуальнага сэктару сельскае гаспадаркі па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, у корані зьнішчаючы праявы недаацэнкі ролі індывідуальнага сэктару і забясьпечыць поўнае выкананьне пляну пасеву. Пленум папярэджвае ўсе організацыі аб недапушчальнасьці ігнараваньня штодзеннай настойлівай работы сярод батрацтва і беднаты ў аднаасобным сэктары сельскае гаспадаркі.

7. Пленум ЦК і ЦКК абавязвае ўсе партарганізацыі шырока разгарнуць масавую работу па растлумачэньні новага закону аб с.-г. падатку. Трэба дабіцца таго, каб новы закон добра ведаў кожны колгасьнік і селянін-аднаасобнік. Усю работу па растлумачэньні і правядзеньні закону трэба выкарыстаць для павышэньня тэмпаў калектывізацыі і поўнага выяўленьня кулацкіх элемэнтаў.

8. Пленум даручае НКЗ і Саўгасаб'яднаньням забясьпечыць сваячасовую падрыхтоўку да веснавой сяўбы саўгасаў, асабліва сьвінагадоўчых, МТС (насеньне, фуражныя фонды, рамонт інвэнтару). У адносінах да МТС трэба забясьпечыць максымальнае выкарыстоўваньне трактараў і машын з такім разьлікам, каб пляны ворыва і сяўбы з боку МТС былі поўнасьцю выкананы.

Пленум абавязвае райкомы прыняць усе захады да забесьпячэньня будаўніцтва саўгасаў, МТС і ільназаводаў рабочай сілай і будматар'яламі.

9. З прычыны нездавальняючага становішча падрыхтоўкі сяўбы і арганізацыі калгаснага руху, пленум даручае Бюро ЦК мабілізаваць асноўны цэнтральны і раённы актыў тэрмінам да 1 мая і паслаць яго непасрэдна ў калгасы, вёскі, саўгасы і МТС для падрыхтоўкі веснавой сяўбы і дапамогі ў падвышэньні тэмпаў калектывізацыі.

Пленум ЦК і ЦКК абавязвае гаркомы, райкомы, камсамол, прафсаюзы і ўсе інш. арганізацыі ўзмацніць работу на мабілізацыі рабочых мас гораду на ўдзел у правядзеньні веснавой сяўбы і калектывізацыі. Пленум пацьвярджае пастановы Бюро ЦК аб спыненьні да сканчэньня пасеўнай кампаніі ўсялякіх нарад у раёнах і цэнтры, не зьвязаных непасрэдна з веснавой сяўбой і разгортваньнем калектывізацыі. Разам з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы неабходна, каб адпаведнымі органамі (НК Калгасцэнтр, Белкаапсаюз, РК КП(б)Б, РВК і інш.) былі ўжо прадугледжаны і мерапрыемствы, зьвязаныя з падрыхтоўкай да ўборачнай кампаніі.

III.

Перад кожным бедняком і серадняком, яшчэ ня ўступіўшым у калгас, паўстала асноўнае пытаньне — за ці супроць калгасу. Ва ўмовах абвостранага клясавага змаганьня вакол калектывізацыі, шалёнага супраціўленьня кулацтва і барацьбы яго супроць калгасаў нельга заставацца нейтральным.

„Бядняк і серадняк—аднаасобнік, які дапамагае кулаку весьці барацьбу супроць калгасаў і падрываць калгаснае будаўніцтва, ня можа быць названы саюзьнікам, а тым больш апораю рабочае клясы. Ён на справе саюзьнік кулака; для таго, каб стаць сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, перад бедняком і серадняком—аднаасобнікам адзіны шлях — шлях дапамогі калгасам, а потым і ўступленьне ў калгас". (З пастановы VI Усесаюзнага зьезду саветаў).

Гэту важнейшую пастанову VI зьезд саветаў павінен ведаць кожны бядняк, кожны серадняк. Гэта важнейшая пастанова абавязвае партарганізацыі ўзмацніць барацьбу з праваапартуністычнай стаўкай на самацёк у калгасным будаўніцтве і адначасова змагацца з парушэньнем ленінскага прынцыпу добраахвотнасьці і імкненьнем замяніць сыстэматычную растлумачальную працу ў масах аднаасобнікаў адміністраваньнем.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК заклікае ўсю партыйную арганізацыю даць рашучы адпор супраціўленьню кулацтва, яшчэ больш узмацніць барацьбу з правым і левым апартунізмам, узмацніць тэмпы мабілізацыі мас для заваяваньня новых посьпехаў у барацьбе за сацыялістычную вёску, за ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

# Сельгаспадатак 1931 году — вострая зброя сацыялістычнага наступленьня на вёсцы

ЗАКОН АБ СЕЛЬГАСПАДАТКУ СПРЫЯЕ КАЛГАСНАМУ ПРЫЛІВУ, ВЫКАНАНЬНЮ ВЯЛІКІХ ЗАДАЧ БАЛЬШАВІЦКАЙ ВЯСНЫ, УЗДЫМУ І РЭКАНСТРУКЦЫІ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ, ДАПАМАГАЕ ЛІКВІДАЦЫІ КУЛАЦТВА ЯК КЛЯСЫ НА АСНОВЕ СУЦЭЛЬНАЙ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ.

## АБ СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫМ ПАДАТКУ НА 1931 г.

Вялізарныя посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва, задачы калектывізацыі ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі ня менш 45 проц. бядняцка - серадняцкіх гаспадарак па БССР і 50 проц. па СССР, задачы ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі—патрабавалі новых зьмен у сыстэме сельгаспадатку. Гэтыя зьмены накіраваны на далейшую, яшчэ больш узмацнёную дапамогу калгасам, на максымальны рост вытворчых сіл сельскай гаспадаркі, шляхам хутчэйшай калектывізацыі дробных сялянскіх гаспадарак і іх тэхнічнага пераўзбраеньня. Зусім зразумела, што закон аб сельгаспадатку цалкам прыстасаваны да вырашэньня важнейшых задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Задача замацаваньня існуючых калгасаў, арганізацыі моцнага прыліву новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у калгасы — патрабавалі такой пабудовы сыстэмы абкладаньня, якая-б стварыла новыя стымулы для ўступленьня бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы, для выкананьня вялікіх заданьняў бягучай веснавой кампаніі.

Калгасы абкладаюцца сёлета не па нормах, як летась, а па іх валавым даходзе, вызначаным на аснове справаздачнасьці калгасу, пакідаючы прапарцыянальнае абкладаньне калгасаў, закон устанаўляе розныя стаўкі абкладаньня для асобных форм і відаў калгасаў, больш нізкія для камун і арцелей і некалькі падвышаныя для прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў — таварыстваў па супольнай апрацоўцы зямлі. Серадняцкія аднаасобныя гаспадаркі, як і летась, абкладаюцца па прагрэсыўнай шкале ставак.

Гэта ставарае прадпасылкі ня толькі для замацаваньня існуючых калгасаў і арганізацыі новага прыліву ў калгасы, але і для пераходу прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў на статут арцеляй, гэтай асноўнай формы калгаснага будаўніцтва на даным этапе.

Надзвычайна важны тыя ільготы, якія прадугледжваюцца законам аб сельгаспадатку ў адносінах жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

Поўнае вызваленьне ад абкладаньня ў калгасах даходаў ад жывёлагадоўлі і вялікія ільготы пры абкладаньні пасеваў тэхнічных культур (ільну і канапель), а таксама вызваленьне ад абкладаньня прыросту, параўнальна з леташнім годам пасеўных плошчаў — зьяўляецца моцнай зброяй у змаганьні за ўздым і рэканструкцыі жывёлагадоўлі, за пашырэньне сыравіннай базы для сацыялістычнай

прамысловасьці, за агульнае пашырэньне пасеўнай плошчы.

Новы закон аб сельгаспадатку ўлічвае інтарэсы ня толькі калгаснага сялянства, але і тых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, якія яшчэ не пераканаліся ў перавазе калектыўнай гаспадаркі і ня ўступілі пакуль што ў калгасы. Для гэтых груп устаноўлены істотныя ільготы, якія цалкам адпавядаюць задачам пашырэньня пасеваў гэтых гаспадарак, разьвіцьцю жывёлагадоўлі і тэхнічных культур.

У адносінах да кулакоў закон аб сельгаспадатку зьяўляецца вострай зброяй барацьбы за поўную ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

Закон выразна падкрэсьлівае абсалютную недапушчальнасьць абкладаньня ў індывідуальным парадку серадняцкіх гаспадарак, у той-жа час ён патрабуе неаслабнай шчыльнай увагі да індывідуальнага абкладаньня кулацкіх гаспадарак. Не адзін кулак не павінен выкруціцца ад індывідуальнага абкладаньня! Неабходна рашуча ліквідаваць апартуністычна-прымірэнчыя адносіны да кулака.

Пастаўленае VI зьездам Саветаў Саюзу перад аднаасобнікамі пытаньне — за ці супроць калгасу—поўнасьцю адбілася ў законе аб сельгаспадатку. Сюды трэба аднесьці пастанову абкладаць частку даходаў серадняка ад прадажы сельскагаспадарчых прадуктаў на прыватным рынку ў тых выпадках, калі ён ня выконвае сваіх абавязкаў па контрактацыі, ня выконвае плянавых заданьняў па загатоўках. Калі-ж серадняк выканаў плянавае заданьне па загатоўках і кантрактацыйныя дагавары, дык прыбыткі па продажу прадуктаў на прыватным рынку сельгаспадаткам не абкладаюцца. Гэтае мерапрыемства бязумоўна дапаможа выкананьню плянавых загатовак і кантрактацыйных дагавароў.

Бедната, якая не ўвайшла ў калгасы, будзе цалкам або часткова вызвалена ад падатку паводле пастаноў сельскіх і падатковых камісій.

Устаноўленыя законам вялікія ільготы для калгасаў і для бядняцка-серадняцкіх — аднаасобных гаспадарак павінны быць шырока растлумачаны ўсяму працоўнаму сялянству—калгасьніку і аднаасобніку яшчэ да выхаду ў поле.

Да ажыцьцяўленьня новага закону павінен быць прыцягнуты ўвесь вясковы актыў, уся партыйная і савецкая грамадзкасьць раёну і вёскі.

Раённыя выканаўчыя камітэты, райфінаддзелы і сельсаветы павінны зараз-жа прыступіць да практычнага ажыцьцяўленьня закону аб сельгаспадатку, мабілізаваць увесь актыў, разгарнуць шырокую агітацыйна-растлумачальную масавую работу.

Цэнтральнаму і мясцоваму друку трэба разгарнуць на сваіх старонках самую шырокую і сыстэматычную папулярызацыю новага закону аб сельгаспадатку.

Трэба безадкладна прыступіць да распрацоўкі і выданьня пастаноў РВК аб сельгаспадатку.

Усякае спазьненьне з правядзеньнем гэтай кампаніі азначае неразуменьне палітычнага значэньня закону аб сельгаспадатку,— гэтай моцнай зброі барацьбы за генэральную лінію партыі на вёсцы, зброі сацыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Новы закон аб сельгаспадатку павінен быць ажыцьцяўлён з усёй бальшавіцкай настойлівасьцю і клясавай выразнасьцю.

А. Хацкевіч.

**Новы сельгаспадатак 1931 г. — моцная зброя барацьбы за сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.**

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў БССР

### пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак на 1931 г.

У адпаведнасьці з палажэньнем пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак на 1931 г., зацьверджаным ЦВК і СНК СССР 29 сакавіка 1931 г. (ґаз. „Известия ЦИК СССР и ВЦИК“ за 1931 г., № 88) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Калгасам, якія выканаюць вытворчыя заданьні па пасеве, апрацоўцы і ўборцы, даецца 10 проц. скідка з налічанай сумы падатку.

2. Устанавіць для калгасаў наступныя тэрміны выплаты сельска-гаспадарчага падатку;

да 1-га лістапада 1931 г.—50% акладу,
да 1-га сьнежня 1931 г.—50% акладу.

3. Даходы ад паляводзтва вызначаць па пахаці, гэта значыць, выходзячы з агульнай плошчы ворнай зямлі гаспадаркі, незалежна ад таго засеяна яна ці не, ва ўсіх раёнах, апроч наступных раёнаў:

Лоеўскага, Асіповіцкага, Азарыцкага, Жыткавіцкага, Мазырскага, Ельскага, Капаткевіцкага, Лельчыцкага, Нараўлянскага, Пятрыкоўскага, Тураўскага, Юравіцкага і Чачэвіцкага, у якіх даходы ад паляводзтва вызначаць па пасеве, г. зн., выходзячы з плошчы сапраўды засеянай зямлі ў гаспадарцы.

4. Устанавіць для раёнаў наступныя нормы даходаў, якія абкладаюцца с.-г. падаткам.

| №№ па парадку | РАЁНЫ | НОРМА АБКЛАДАНАГА ДАХОДУ Ў РУБЛЁХ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1 гэктар | | | | | | На 1 штуку | | | |
| | | Пахаці | Пасеву | Сенаж. заліўной | Сенаж. незаліўной | Гароду | Саду | Коняй стар. 4 год | Бык. і нецеляй стар. 3 г. і кароў | Валоў стар. 4 год | Перазім. авечак і коз |
| 1 | Азарыцкі | — | 49 | 24 | 9 | 55 | 175 | 20 | 16 | 14 | 1 р. 80 к. |
| 2 | Аршанскі | 39 | — | 28 | 8 | 215 | 245 | 25 | 33 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 3 | Асіпавіцкі | — | 53 | 31 | 19 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 4 | Асвейскі | 34 | — | 27 | 16 | 215 | 185 | 24 | 17 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 5 | Бабруйскі | 41 | — | 31 | 19 | 210 | 285 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 6 | Багушэўскі | 38 | — | 28 | 17 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 7 | Барысаўскі | 38 | — | 29 | 19 | 215 | 225 | 24 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 8 | Бешанковіцкі | 35 | — | 24 | 17 | 170 | 195 | 26 | 21 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 9 | Брагінскі | 43 | — | 33 | 20 | 180 | 205 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 10 | Буда-Кашалёўская | 41 | — | 33 | 20 | 190 | 205 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 11 | Быхаўскі | 43 | — | 36 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 12 | Бягомльскі | 32 | — | 27 | 17 | 155 | 165 | 19 | 18 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 13 | Бялыніцкі | 38 | — | 31 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 14 | Бярэзінскі | 39 | — | 29 | 19 | 180 | 185 | 23 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 15 | Боркавіцкі | 37 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 16 | Віцебскі | 42 | — | 31 | 19 | 280 | 285 | 28 | 28 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 17 | Веткаўскі | 41 | — | 36 | 21 | 190 | 210 | 25 | 23 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 18 | Ветрынскі | 35 | — | 27 | 18 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 р, 80 к. |
| 19 | Вульскі | 35 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 20 | Вушацкі | 35 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 21 | Высачанскі | 42 | — | 29 | 18 | 225 | 245 | 28 | 26 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 22 | Гарадоцкі | 35 | — | 24 | 18 | 225 | 245 | 27 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 23 | Глускі | 39 | — | 36 | 19 | 195 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 24 | Гомельскі | 42 | — | 34 | 21 | 205 | 225 | 25 | 26 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 25 | Горацкі | 39 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |

| №№ па парадку | РАЁНЫ | НОРМЫ АБКЛАДАНАГА ДАХОДУ Ў РУБЛЁХ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1 гэктар | | | | | | На 1 штуку | | | |
| | | Пахаці | Пасеву | Сенаж. заліўной | Сенаж. незаліўной | Гароду | Саду | Коняй стар. 4 год | Бык. і непелай стар. 3 г. і кароў | Валоў стар. 4 год | Перазім. авечак і коз |
| 26 | Грэскі | 45 | — | 26 | 18 | 225 | 255 | 26 | 24 | 14 | 1 р. 80 к. |
| 27 | Дубровенскі | 37 | — | 28 | 17 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 28 | Дрыбінскі | 39 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 29 | Дрысенскі | 36 | — | 27 | 17 | 215 | 186 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 30 | Ельскі | — | 50 | 28 | 20 | 155 | 175 | 24 | 17 | 16 | 1 р. 80 к. |
| 31 | Жлобінскі | 41 | — | 36 | 19 | 205 | 285 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 32 | Журавіцкі | 39 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 33 | Жыткавіцкі | — | 47 | 27 | 19 | 155 | 175 | 22 | 17 | 14 | 1 р. 80 к. |
| 34 | Заслаўскі | 42 | — | 29 | 22 | 240 | 270 | 26 | 25 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 35 | Камарынскі | 37 | — | 36 | 20 | 170 | 195 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 36 | Капыльскі | 49 | — | 24 | 18 | 225 | 260 | 30 | 28 | 16 | 1 р. 80 к. |
| 37 | Капаткевіцкі | — | 49 | 24 | 18 | 155 | 175 | 23 | 17 | 14 | 1 р. 80 к. |
| 38 | Кармянскі | 38 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 39 | Касьцюковіцкі | 38 | — | 28 | 19 | 215 | 275 | 26 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 40 | Копыскі | 41 | — | 28 | 19 | 215 | 245 | 25 | 23 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 41 | Коханаўскі | 40 | — | 28 | 19 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 42 | Койданаўскі | 43 | — | 29 | 22 | 215 | 270 | 27 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 43 | Клічаўскі | 38 | — | 33 | 19 | 195 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 44 | Клімавіцкі | 38 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 45 | Краснапольскі | 35 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 46 | Крупскі | 36 | — | 28 | 17 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 47 | Кругляпскі | 41 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 48 | Крычаўскі | 39 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 49 | Лагойскі | 40 | — | 26 | 18 | 175 | 225 | 24 | 22 | 14 | 1 р. 80 к. |
| 50 | Лельчыцкі | — | 47 | 24 | 18 | 155 | 175 | 23 | 16 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 51 | Лепельскі | 34 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 52 | Лёзьненскі | 43 | — | 30 | 19 | 225 | 245 | 28 | 28 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 53 | Лоеўскі | — | 58 | 36 | 20 | 170 | 195 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 54 | Любанскі | 41 | — | 24 | 18 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 55 | Лядпянскі | 37 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 56 | Магілеўскі | 42 | — | 36 | 19 | 215 | 270 | 25 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 57 | Мазырскі | — | 51 | 30 | 20 | 155 | 175 | 25 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 58 | Межанскі | 37 | — | 26 | 17 | 170 | 195 | 27 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 59 | Менскі | 50 | — | 32 | 22 | 250 | 290 | 29 | 29 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 60 | Мсьціслаўскі | 43 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 27 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 61 | Нараўлянскі | — | 49 | 29 | 19 | 155 | 175 | 24 | 17 | 16 | 1 р. 80 к. |
| 62 | Парыцкі | 37 | — | 31 | 19 | 195 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 63 | Пятрыкоўскі | — | 51 | 29 | 20 | 155 | 175 | 23 | 17 | 15 | 1 р, 80 к. |
| 64 | Плешчаніцкі | 32 | 1 | 27 | 17 | 156 | 210 | 20 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 65 | Полацкі | 36 | — | 27 | 18 | 215 | 185 | 24 | 21 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 66 | Прапойскі | 38 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к, |
| 67 | Пухавіцкі | 42 | — | 27 | 21 | 240 | 270 | 26 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 68 | Рагачоўскі | 41 | — | 36 | 19 | 205 | 285 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 69 | Расьнянскі | 38 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к, |
| 70 | Расонскі | 34 | — | 27 | 17 | 215 | 185 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 71 | Рэчыцкі | 40 | — | 36 | 20 | 195 | 210 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 72 | Сеньненскі | 37 | — | 28 | 18 | 170 | 195 | 27 | 22 | 15 | 1 р. 80 к |
| 73 | Сіроцінскі | 36 | — | 24 | 18 | 225 | 245 | 27 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 74 | Слуцкі | 50 | — | 29 | 18 | 210 | 285 | 31 | 28 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 75 | Смалявіцкі | 42 | — | 27 | 20 | 205 | 255 | 25 | 23 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 76 | Ст. Дароскі | 37 | — | 24 | 18 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 77 | Старобінскі | 40 | — | 24 | 18 | 205 | 255 | 25 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 78 | Сураскі | 41 | — | 28 | 18 | 225 | 245 | 27 | 25 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 79 | Сьвіслацкі | 39 | — | 31 | 19 | 205 | 255 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |

| №№ па парадку | РАЁНЫ | НОРМЫ АБКЛАДАНАГА ДАХОДУ Ў РУБЛЁХ | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | На 1 гэктар | | | | | | На 1 штуку | | | |
| | | Пахаці | Пасеву | Сенаж. залійной | Сенаж. незалійной | Гароду | Саду | Коняй стар. 4 год | Бык. і нецеляй стар. 3 г. і кароў | Валоў стар. 4 год. | Перазім. авечак і коз |
| 80 | Сьмілавіцкі | 43 | — | 28 | 20 | 205 | 255 | 26 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 81 | Талачынскі | 41 | — | 28 | 18 | 215 | 245 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 82 | Тураўскі | — | 55 | 28 | 18 | 155 | 175 | 23 | 17 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 83 | Уваравіцкі | 42 | — | 36 | 21 | 195 | 210 | 25 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 84 | Вузьдзенскі | 41 | — | 27 | 18 | 175 | 225 | 25 | 22 | 14 | 1 р. 80 к. |
| 85 | Халапеніцкі | 33 | — | 27 | 18 | 155 | 165 | 20 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 86 | Хоцімскі | 39 | — | 28 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 87 | Хойніцкі | 42 | — | 33 | 20 | 195 | 210 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 88 | Церахаўскі | 39 | — | 30 | 20 | 190 | 180 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 89 | Чавускі | 41 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 90 | Чэрэйскі | 36 | — | 28 | 19 | 215 | 245 | 25 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 91 | Чачэрскі | 42 | — | 36 | 20 | 190 | 210 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 92 | Чачэвіцкі | — | 52 | 31 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 93 | Чашніцкі | 34 | — | 26 | 17 | 170 | 195 | 26 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 94 | Чэрвеньскі | 41 | — | 24 | 18 | 175 | 225 | 25 | 23 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 95 | Чэрыкаўскі | 37 | — | 33 | 19 | 215 | 270 | 25 | 20 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 96 | Чырв. Слаб. | 47 | — | 24 | 18 | 205 | 285 | 31 | 24 | 15 | 1 р. 80 к. |
| 97 | Шклоўскі | 43 | — | 36 | 19 | 215 | 270 | 25 | 22 | 15 | 1 р. 85 к. |
| 98 | Юравіцкі | — | 54 | 32 | 20 | 155 | 175 | 24 | 19 | 15 | 1 р. 80 к. |

У наступных раёнах прамысловага масларобства: Горацкім, Жлобінскім, Рагачоўскім, Віцебскім, Гарадоцкім, Лёзьненскім, Высачанскім, Гомельскім, Магілеўскім Копыльскім, Менскім, Боркавіцкім і Нараўлянскім даходы ад кароў і быкоў у гаспадарках, якія заключылі кантрактацыйныя дагавары аб здачы прадукцыі жывёлагадоўлі абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам са скідкаю ў 50 проц. у пгараўнаньні з нормамі, устаноўленымі для адпаведных паселішчаў.

6. Даход ад плошчаў, занятых пасевамі ільну і канапель, налічваецца па ўсіх раёнах з палавіннаю скідкаю з норм даходнасьці, устаноўленых для палявых зямель.

7. Даходы ад неземляробчых заработкаў уключаюцца ў абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам даход у наступных разьмерах: а) заработная плата работнікаў, якія стала жывуць у сваёй сельскай гаспадарчы, у разьмеры 15 проц.; б) заработная плата работнікаў, якія стала жывуць па-за сваёй сельскай гаспадаркай, у разьмеры 10 проц.; в) плата, якая атрымліваецца на адходных промыслах на работу па найме, у разьмеры 20 проц.; г) даходы, атрыманыя ад адходных промыслаў, не па найме, у разьмеры 40 проц.; д) даход, атрыманы ад саматужных рамесьніцкіх і іншых заработкаў без нанятых рабочых, у разьмеры 50 проц.

Для каапэраваных саматужнікаў і рамесьнікаў, якія не карыстаюцца наёмнай працай, вылічаны такім чынам даход паніжаецца на чвэрць: ільгота гэта пашыраецца толькі на тых саматужнікаў і рамесьнікаў, якія зьяўляюцца членамі таварystваў, што ўваходзяць у каапэрацыйную сыстэму.

8. Гаспадаркі лічацца кулацкімі і абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, калі ёсьць адна ці некалькі з наступных адзнак:

а) калі ў гаспадарцы сыстэматычна ўжываецца наёмная рабочая сіла для сельска-гаспадарчых работ больш 30 рабочых дзён у год.

Па гэтай адзнацы не абкладаюцца сельска-гаспадарчым пададкам у індывідуальным парадку гаспадаркі, якія ўжываюць нанятую рабочую сілу ня больш



Падрыхтаванымі калгасьнікі выяжджаюць у поле.

30 рабочых дзён у год, або ня больш аднаго сталага рабочага пры наступных акалічнасьцях: хвароба, мабілізацыя, прызыў у РСЧА, выбары на грамадзкую пасаду, якая патрабуе адрыву ад гаспадаркі, удовы з малымі дзецьмі, на ўвесь час даnага становішча гаспадаркі, а таксама гаспадаркі, члены якіх адыходзяць на сэзонную работу, а гаспадарка з гэтае прычыны ўжывае на пэрыяд адыходу на сэзонную работу нанятую рабочую сілу, ня больш аднаго рабочага;

б) калі ў сельскай гаспадарцы ёсьць саматужна-прамысловае прадпрыемства і ў ім ужываецца нанятая рабочая сіла незалежна ад разьмеру.

Не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку тыя гаспадаркі, саматужна - прамысловыя прадпрыемствы якіх па асаблівых умовах вытворчасьці ужываюць ня больш аднаго дарослага рабочага або двух вучняў (напр.: малатабоец у каваля);

в) калі ў гаспадарцы ёсьць млын, незалежна ад колькасьці паставаў, маслабойка, крупадзёрка, просадзёрка, воўначоска, воўнабітка, цёрачнае прадпрыемства, сушня бульбы, садавіны ці гародніны, або іншае прамысловае прадпрыемства пры ўмове ўжываньня ў пералічаных прадпрыемствах або мэханічнага рухавіка або сілы ветру ці вады, або конскай цягавай сілы, або, калі гэтыя прадпрыемствы працуюць пераважна на скупліваемым сырцы.

Калі ў гаспадарцы ёсьць адно з пералічаных прадпрыемстваў без мэханічнага рухавіка, дык гэта зьяўляецца адзнакаю для індывідуальнага абкладаньня пры ўмове, калі даход з гэтага прадпрыемства за год складае больш 150 руб.

Калі-ж у гаспадарцы ёсьць некалькі з пералічаных прадпрыемстваў, дык гэта зьяўляецца адзнакаю для індывідуальнага абкладаньня, хаця ў даных прадпрыемствах няма паказаных вышэй умоў;

г) калі гаспадарка мае або арандуе прамысловае прадпрыемства, якім эксплёатуе насельніцтва праз здачу тых, або іншых работ на дом, або праз здачу гэтага прадпрыемства ў арэнду ці субарэнду;

д) калі гаспадарка дае ў наймы сельска-гаспадарчыя машыны з мэханічным рухавіком, або за плату праводзіць работу з гэтымі машынамі для іншых гаспадарак, а таксама калі гаспадарка эксплёатуе складаныя сельска-гаспадарчыя машыны і без мэханічнага рухавіка, але даход ад эксплёатацыі гэтых машын за год перавышае 150 руб.;

е) калі гаспадарка дае ў карыстаньне ваколічнаму насельніцтву рабочую жывёлу на ўмовах, прызнаных раённай падатковай камісіяй кабальнымі;

ж) калі гаспадарка здае або арандуе для гандлёвай ці прамысловай эксплёатацыі сад ці гарод больш 0,5 гэктараў у сельскіх мясцовасьцях, ці 025 гэкт. у гарадох;

з) калі гаспадарка сыстэматычна здае ў наймы памяшканьне пад жыльлё, ці прадпрыемства, або спэцыяльнае памяшканьне пад дачу і сума арэнднай платы за год перавышае 150 руб.

Калі-ж гаспадарка здае памяшканьне пад школы, лікпункты, хаты-чытальні і інш. дзяржаўныя ці грамадзкія ўстановы, дык гэтыя гаспадаркі не абкладаюцца сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку, калі ў іх няма іншых адзнак з пералічаных у гэтым артыкуле;

і) калі члены гаспадаркі займаюцца гандлем па рэгістрацыйным пасьведчаньні, або без яго (скупкай перапрадажам сельска-гаспадарчых прадуктаў і іншых рэчаў, ліхвярствам, пазычаньне грошай ці іншых рэчаў на проценты, альбо на адработак), ці маюць іншыя непрацоўныя даходы, у тым ліку служкі рэлігійных культаў;

к) калі гаспадарка арандуе вадазборы для рыбнай лоўлі;

л) калі ў гаспадарцы ёсьць даходы ад эксплёатацыі ўласнай ці арэндаванай лайбы і атрыманы за год даход перавышае 150 руб.;

м) калі гаспадарка бярэ на пашу за плату чужую жывёлу і атрыманая за гэта плата перавышае за год 150 руб.

Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты, Менскі, Віцебскі і Гомельскі гарадзкія саветы ўстанавіць пільны нагляд за тым, каб ні ў якім разе не дапускалася абкладаньне ў індывідуальным парадку серадняцкіх гаспадарак. Вінаватыя ў парушэньні гэтага правіла павінны прыцягвацца да суровай адміністрацыйнай або судовай адказнасьці.

9. Устанавіць наступныя тэрміны для выплаты калгасьнікамі па іх неаграмаджаных даходах і аднаасобнымі гаспадаркамі сельска-гаспадарчага падатку:

да 1 верасьня 1931 г. — 30 проц. акладу.

да 15 кастрычніка 1931 г.—50 проц. акладу,

да 1 сьнежня 1931 г., 20 проц. акладу

Усе гаспадаркі, абкладзеныя ў індывідуальным парадку, павінны заплаціць усе 100 проц. падатку да 1-га верасьня 1931 год.

10. Для падліку платнікаў сельска-гаспадарчага падатку і крыніц іх даходаў і для разгляду скаргаў па сельска-гаспадарчым падатку, арганізуюцца сельскія падатковыя камісіі ў складзе: старшыні камісіі (старшыня сельскага савету) і членаў камісіі, старшыня камітэту ўзаемадапамогі, прадстаўнік калгасаў, прадстаўнік групы беднаты, прадстаўнік сэкцыі РСІ і член сельскага савету з таго паселішча або вучастку, дзе праводзіцца падлік аб'ектаў абкладаньня, або справы якога разглядаюцца ў камісіі.



Брыгада сяўцоў у калгасе



Сяўба ў колгасе ручной сеялкай.

11. Налічэньне абкладанага даходу і акладаў сельска-гаспадарчага падатку ва ўсіх гаспадарках апрача калгасаў, складаньне і перадача акладных лістоў ускладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты. Раённым выканаўчым камітэтам даецца права, калі яны знойдуць магчымым, ускласьці гэту працу на асобныя сельскія саветы.

12. У раёнах арганізуюцца раённыя камісіі па сельска-гаспадарчым падатку у складзе старшыні камісіі—загадчык раённага фінансавага аддзелу, і членаў камісіі: загадчык раённага зямельнага аддзелу і прадстаўнікоў: раённай пракуратуры, раённай РСІ, раённага калгассаюзу, раённага прафсавету і раённага камітэту т-ваў узаемадапамогі. На раённыя камісіі ўскладаюцца абавязкі, паказаныя ў арт. арт. 8, 50, 53, 86, 92 і 93 палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак на 1931 г.

13. Усім платнікам сельска-гаспадарчага падатку акладныя лісты павінны быць пераданы не пазьней 1-га жніўня 1931 г.

14. Прапанаваць усім раённым выканаўчым камітэтам, Менскаму, Віцебскаму і Гомельскаму, гарадзкім саветам не пазьней 10 красавіка г. г.: а) устанавіць і апублікаваць нормы даходнасьці для паасобных сельскіх саветаў і ў асобных выпадках для паасобных паселішч, выходзячы з раённых норм, паказаных у арт. 4 гэтае пастановы; б) вырашыць пытаньне, якое вынікае з увагі першай да арт. 28 палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак, пра прыцягненьне да абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам і інш. спэцыяльных галін, не прадугледжаных арт. 4 гэтай пастановы, устанавіўшы ў адпаведных выпадках для іх спэцыяльныя нормы даходнасьці; в) па раёнах, на тэрыторыі якіх ёсьць гарады альбо мястэчкі гарадзкога тыпу, апроч гэтага ўстанавіць і апублікаваць парадак абкладаньня сельска-гаспадарчым падаткам грамадзян,

якія займаюцца сельскай гаспадаркай на гарадзкіх землях, у адпаведнасьці з арт. арт. 30 і 86 палажэньня пра сельска-гаспадарчы падатак, пры чым прадугледзець, што тыя з грамадзян, якія будуць абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам, павінны выплачваць его па даходах ад сельскай гаспадаркі, а таксама і ад неземляробчых заработкаў.

15. Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам, гарадзкім і сельскім саветам безакладна разгарнуць шырокую агітацыйна растлумачальную кампанію па. папулярызацыі новага закону, асабліва растлумачыўшы ільготы, устаноўленыя для калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

16. Даручыць Народнаму Камісарыяту фінансаў не пазьней 25 красавіка г. г. выдаць інструкцыю аб парадку ажыцьцяўленьня закону пра сельска-гаспадарчы падатак.

17. У зьвязку з выданьнем гэтай пастановы скасаваць пастанову ЦВК і СНК БССР за 19 сакавіка 1930 г. пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак (З. З. БССР 1930 г., № 17, паст. 116) і пастановы ЦВК і СНК БССР за 31 сьнежня 1930 г. „Пра адзнакі кулацкіх гаспадарак“ (З. З БССР 1931 г., № 3, паст. 19).

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР *А. Чарвякоў.*

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР *М. Галадзед.*

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР *Гіляковіч.*

6 красавіка 1931 г.
г. Менск.



**Паседжаньне рэдкалегіі ў калгасе (Чырвоная Полаччына, Вушацкі р.).**

# У паход за зьдзельшчыну

**Зьдзельшчынай, сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам нанясём руйнуючы ўдар па кулаку.**

## Аб арганізацыі працы ў калгасах

*(Пастанова III Усебеларускага зьезду калгасаў)*

Вынікі разгорнутага калгаснага будаўніцтва ўжо выявілі дасягненьні калгасаў ў арганізацыі калектыўнай вытворчасьці.

Калгасы накапілі вопыт па арганізацыі калектыўнай працы, вырасьлі і замацаваліся новыя кадры кіраўнікоў і арганізатараў калгаснай вытворчасьці з асяродзішча саміх калгасьнікаў. Рад калгасаў у часе веснавой пасеўнай і ўборачна-асеньняй кампаніі паказалі сапраўды бальшавіцкія тэмпы ў рабоце, чым спрыялі пасьпяховаму разгортваньню прыліву бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы.

Аднак, „тыя магчымасьці павышэньня прадукцыйнасьці працы пры аднначасовым яе палягчэньні, якія закладзены ў буйнай калектыўнай гаспадарцы, былі скарыстаны далёка ня поўнасьцю з прычыны раду сур'ёзьнейшых недахопаў у рабоце калгасаў“ (з тэзісаў тав. Якаўлева да 6-га Усесаюзнага зьезду саветаў).

Галоўнейшымі з іх зьяўляюцца:

1. У значнай колькасьці калгасаў і нават раёнаў дапушчаны *самыя грубыя парушэньні асноўных прынцыпаў размеркаваньня вынікаў калектыўнай працы.*

Рад калгасаў, па прыкладу саўгасаў, увялі для калгасьнікаў цьвёрдую зарплату, і значная частка ў большай або ў меншай ступені размеркаваньне ўраджаю і даходаў праводзілі па ўраўнівальным прынцыпе—па сем'ях, едаках з устанаўленьнем пайкоў і г. д.

2. *Зусім слабае ўкараненьне норм выпрацоўкі і зьдзельшчыны.*

Зьдзельшчыну ўжываюць толькі 10 проц. калгасаў.

У радзе калгасаў нормы выпрацоўкі былі прыняты фармальна і ў жыцьцё амаль што не праводзіліся. Значнай перашкодай у справе ўкараненьня норм выпрацоўкі і зьдзельшчыны зьяўлялася неналаджанасьць першапачатковага вучоту працы ў калгасах.

3. *Няправільная арганізацыя і слабае выкарыстаньне наяўнай рабочай і цягавай сілы асабліва ў часе ўборкі ўраджаю і апрацоўкі ільну.*

Брыгады ў большасьці калгасаў з боку праўленьняў ня мелі належнага кіраўніцтва і плянавасьці ў рабоце, што ў ў радзе выпадкаў выклікала настроі непатрэбнасьці ўжываньня брыгаднай формы выкананьня работы.

У галіне жывёлагадоўлі ў большасьці калгасаў ня створаны сталыя брыгады і групы калгасьнікаў па доглядзе за жывёлай. Абслугоўваньне і догляд жывёлы вельмі часта вядзецца ў парадку чаргі, без прымацаваньня жывёлы да вызначаных калгасьнікаў.

У галіне садоўніцтва і гародніцтва



Пробны выезд у другую калгасную вясну.

брыгадны спосаб работы ўжываўся выпадкова.

Большасьць калгасаў зусім недастаткова выкарыстоўваюць наяўны запас рабочай сілы, асабліва жаночай. У радзе калгасаў за адну і тую-ж работу жанчынам налічвалі менш працадзён, чым мужчынам.

4. Ня гледзячы на няпоўнае скарыстаньне наяўнай рабочай сілы нават у часе напружаных работ, удзел калгасаў ў адыходніцтве вельмі нізкі.

Асобныя калгасы і калгассаюзы зусім недапушчальна аднесьліся да справы адыходніцтва, ня прымалі ніякіх мер да вылучэньня адыходнікаў з калгасаў і нават перашкаджалі калгасьнікам пайсьці на работу ў прамысловасьць і іншыя галіны народнае гаспадаркі.

Сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва як штодзённыя мэтады работы ў большасьці калгасаў ня ўжываюцца. Адсутнічае праверка і вучот вынікаў заключаных дагавораў. Сацыялістычнае спаборніцтва часта носіць урачысты і паказальны характар. Вопыт і дасягненьні прамысловых прадпрыемстваў у галіне разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва слаба пераносіцца ў калгасы.

5. *Зьезд падкрэсьлівае*, што правільная арганізацыя працы, павышэньне прадукцыйнасьці яе і ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны набываюць выключна палітычнае і практычнае значэньне ў далейшай рабоце ўсёй калгаснай сыстэмы.

Зьезд цалкам ухваляе пастановы Ўсесаюзнай і Ўсебеларускай нарады калгасаў па арганізацыі працы і заклікае усе калгасы мабілізаваць самыя шырокія масы на барацьбу за ажыцьцяўленьне высунутых гэтымі нарадамі і правераных на вопыце перадавых калгасаў лепшых форм і мэтадаў арганізацыі працы, і пастанаўляе:

## Аб разьмеркаваньні ўраджаю і даходаў.

1. Паступаючая ў разьмеркаваньне паміж калгасьнікамі частка даходаў павінна разьмяркоўвацца паміж імі выключна па колькасьці і якасьці працы, выражанай у працаднёх, на аснове цьвёрдых норм выпрацоўкі і зьдзельшчыны.

Забараніць у далейшым ужываць у калгасах разьмеркаваньне даходаў паміж калгасьнікамі: па едаках, сем'ях, зямлі і ўстанаўленьне цьвёрдай заработнай платы.

Правесьці рашучую барацьбу з тымі калгасамі, якія будуць разьмяркоўваць даходы не па працаднях, а іншым спосабам, разглядаючы іх, як ілжэкалгасы.

Разам з тым шырока разгарнуць масавую работу і барацьбу супроць спажывецкіх і рвацкіх настрояў асобных калгасьнікаў, перашкаджаючых наладжваньню правільнай арганізацыі працы і разьмеркаваньню даходаў і ўраджаю па колькасьці і якасьці працы.

2. У мэтах гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў і павышэньня іх таварнасьці абавязаць калгасы і калгассаюзы пры разьмеркаваньні даходаў і ўраджаю зьвярнуць асаблівую ўвагу на стварэньне непадзельных фондаў, адпаведна статуту с.-г. арцелі і дырэктыў Калгасцэнтру СССР.

3. Прызнаць неабходным захаваць надалей 5 проц. фонд ад валавога ўраджаю і ад даходаў абагуленай малочнай жывёлы і разьмеркаваньне яго ў падвойным разьмеры на рабочую і прадукцыйную жывёлу ў параўнаньні з іншай абагуленай маемасьцю калгасьнікаў.

4. Фонд непрацаздольных у радзе выпадкаў зьяўляецца скрытай формай ядоцкага разьмеркаваньня даходаў, таму трэба шырока растлумачыць калгасьнікам, што дзеці, старыя і наогул непрацаздольныя павінны знаходзіцца, як правіла, на ўтрыманьні свайго двара.

Дапамогу з фонду непрацаздольных могуць атрымліваць: 1) страціўшыя поўнасьцю працаздольнасьць у калгасе; 2) інваліды грамадзянскай вайны; 3) жанчыны за час аслабаненьня ад працы ў калгасе па цяжарнасьці; 4) цяжка хворыя і 5) шмат'ядоцкія, пры значнай колькасьці непрацаздольных, сіроцкія і чырвонаармейскія сем'і.

Разьмер дапамогі гэтым непрацаздольным вызначаецца калгасамі, выходзячы з працоўнага ўдзелу ў калгаснай вытворчасьці як іх саміх, так і працаздольных членаў сям'і.

5. У справе авансаваньня калгасьнікаў лічыць мэтазгодным: 1) авансаваньне скараціць да мінімуму і ствараць толькі за лік бягучых даходаў, 2) авансаваньне утвараць у залежнасьці ад выпрацаваных дзён і 3) авансавыя выдачы не павінны перавышаць 50 проц. даходу 1930 г., разьмеркаванага па працаднях.

### Аб укараненьні норм выпрацоўкі і зьдзельшчыны

1. Па ўкараненьні норм выпрацоўкі і зьдзельшчыны калгасы і калгассаюзы павінны разгарнуць работу такім чынам, каб максымальна ўцягнуць у практычнае вырашэньне гэтых пытаньняў шырокія масы калгасьнікаў і калгасьніц. Найбольш актыўную ролю павінны адыграць у якасьці застрэльшчыкаў шэфскія арганізацыі і рабочыя „25-тысячнікі“, маючыя вопыт фабрычна-заводзкіх работ, увесь батрацка-бядняцкі актыў, ударнікі, камуністы і камсамольцы.





**Новыя трактары к веснавой сяўбе**

Прызнаць нягоднай, наскрозь апартуністычнай работу тых калгассаюзаў і калгасаў, якія недаацэньваюць і практычна не праводзяць зьдзельнай сыстэмы работ замест пачасовай і ўраўніцельнай.

> „Калі ў першую вясну 40 проц. арцеляў ня мелі норм разьмеркаваньня працы і гэта было зразумела, дапусьціма і прасьціцельна, дык гэткае зьявішча ў другую вясну мы будзем разглядаць, як злачынства“. (т. Якаўлеў на XVI партзьезьдзе).

6. Даручыць праўленьню Калгасцэнтру выдзяліць пэўную колькасьць калгасаў для спэцыяльнага нагляду і праверкі іх работы па ўкараненьню зьдзельшчыны, вывучэньню вопыту з мэтай пераняісеньня іх дасягненьняў на астатнія калгасы БССР.

## Аб арганізацыі і плянавым скарыстаньні рабочай сілы

1) Прызнаць, што брыгадная форма арганізацыі працы зьяўляецца лепшым спосабам павышэньня прадукцыйнасьці яе на аснове зьдзельшчыны і разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва.

Таму да веснавой сяўбы калгасы павінны дабіцца рашучага павароту ў напрамку ажыцьцяўленьня брыгаднага спосабу арганізацыі і выкарыстоўваньня рабочай сілы па ўсіх асноўных галінах калгаснай вытворчасьці.

Неабходна: а) разгарнуць рашучую барацьбу з усімі недахопамі, якія мелі месца ў калгасах да гэтага часу пры арганізацыі брыгад; б) укараняць у практыку калгасаў арганізацыю брыгад у залежнасьці ад характару работ (камбінаваныя і спэцыялізаваныя), зжываючы брыгады-дворкі з тэрытарыяльна-замкнутымі межамі, як неадпавядаючыя вытворчым задачам калгаснага будаўніцтва; в) у галіне жывёлагадоўлі ва ўсіх калгасах правесьці брыгадную форму арганізацыі працы і замацаваньне работнікаў на круглы год; г) лічыць мэтазгодным на адказьнейшых вучастках калектыўнай працы арганізаваць спэцыяльныя моладзёжныя ўдарныя брыгады.

2) Пераход на нормы выпрацоўкі і зьдзельшчыну ўскладае на брыгадзіраў асабліва адказную ролю. Зьезд абавязвае калгассаюзы і калгасы рашуча ўзмацніць жывое кіраўніцтва работай брыгад і сыстэматычна весьці работу па падрыхтоўцы і інструктаваньні брыгадзіраў шляхам скліканьня пэрыодычных нарад брыгадзіраў і кіраўнікоў галін гаспадаркі Зьезд даручае Белкалгасцэнтру пашы-

рыць выданьне папулярнай масавай літаратуры, разьлічанай на шырокі актыў калгасьнікаў і брыгадзіраў па пытаньнях правільнай арганізацыі працы ў калгасах.

3) Плянавае разьмеркаваньне рабочай сілы павінна зьявіцца абавязковым правілам у рабоце кожнага калгасу, таму на справу складаньня вытворчых плянаў і рабочых праграм па 4 асноўных пэрыядах с.-г. работ трэба зьвярнуць асабліва вялікую ўвагу, арганізуючы шырокія масы калгасьнікаў на іх складаньне і кантроль за выкананьнем.

4) Зьезд рашуча асуджае існуючую з боку часткі калгаснага актыву недаацэнку важнасьці работы вытворчых нарад і абавязвае ўсе калгасы, райкалгассаюзы рашуча ўзмацніць жывое кіраўніцтва работай вытворчых нарад. У адносінах да тых калгасаў, якія падменьваюць сапраўдны ўдзел калгасьнікаў і калгасьніц у вырашэньні важнейшых арганізацыйна - гаспадарчых мерапрыемстваў голым адміністраваньнем ужываць усе меры грамадзкае ўзьдзейнасьці.

**Аб арганізацыі жаночай працы**

Асноўным прынцыпам арганізацыі жаночай працы павінна стаць прыцягненьне жанчын у калгасную вытворчасьць нароўне з мужчынай.

1) Ставячы задачай уцягненьне жанчын у работу агульных брыгад, практыкаваць адначасова арганізацыю спэцыяльных жаночых брыгад, асабліва ў тых галінах сельскай гаспадаркі, дзе пераважна ўжываецца жаночая праца (агародніцтва і інш.).

2) Максымальна пашырыць прыцягненьне жанчын на кіруючыя кваліфікаваныя работы (брыгадзіры, кіраўнікі галін прадпрыемстваў і інш.).

3) Для вызваленьня жанчын ад хатняй работы максымальна разгарнуць грамадзкія культ-бытавыя ўстановы, пашыраючы прыцягненьне для гэтае мэты ўнутры-калгасных сродкаў. Не павінна быць ніводнага калгасу бяз ясьляй, або іншых прасьцейшых форм дагляду дзяцей у часе работы калгасьніц.

4) Рашуча зьнішчыць няроўную ацэнку працы жанчын на аднолькавай рабоце з мужчынай.

5) На аснове правядзеньня растлумачальнай работы і адпаведных арганізацыйных мерапрыемстваў дабіцца большага ўдзелу жанчын у адыходніцтве ў прамысловасьць, саўгасы і будаўніцтва.

6) Разгарнуць масавую работу па ўцягненьні жанчын у сацспаборніцтва і ўдарніцтва паміж сабой, а таксама паміж калгасьніцамі і работніцамі саўгасаў, прадпрыемстваў і аднаасобнікамі.

7) Побач з усямерным прыцягненьнем жанчын на агульныя вытворчыя нарады арганізоўваць спэцыяльныя жаночыя калгасныя і раённыя вытворчыя нарады з удзелам у рабоце гэтых нарад і аднаасобніц.



**Падрыхтаванымі выехалі на калгасныя палі.**

## Аб арганізацыі працы падросткаў

1) У мэтах больш поўнага скарыстаньня працы падросткаў зьезд даручае Калгасцэнтру ў самы бліжэйшы тэрмін распрацаваць асобныя паказаньні па гэтым пытаньні.

2) Прызнаць мэтазгодным, побач з уцягненьнем падросткаў у агульныя брыгады, практыкаваць арганізацыю спэцыяльных брыгад з падросткаў у тых галінах гаспадаркі, дзе магчыма ўжываць пераважна працу падросткаў.

3) У мэтах падрыхтоўкі кваліфікаваных кадраў для калгаснай вытворчасьці абавязаць Райкалгассаюзы і калгасы прымацоўваць падросткаў да тых ці іншых спэцыялістаў і прадпрыемстваў (вучнёўства) і ўцягваць іх у работу вытворчых нарад.

4) У радзе калгасаў маючыяся інтэрнаты калгасьнікаў адзіночак, якімі пераважна зьяўляецца батрацка-бядняцкая моладзь, знаходзяцца ў дрэнным становішчы. Зьезд абавязвае калгасы і калгассаюзы прыняць рад практычных мерапрыемстваў па пашырэньні сеткі інтэрнатаў і іх палепшаньні (абсталяваньне, грамадзкае харчаваньне і інш.).

## Выкарыстаньне лішкаў рабочай сілы калгасаў

Ва ўмовах ліквідацыі беспрацоўя ў горадзе, неабходныя кадры рабочай сілы для прамысловасьці і сэзонных работ павінны чэрпацца ў асноўным з вёскі, галоўным чынам з калгасаў.

1) Зьезд катэгарычна асуджае маючуюся недаацэнку справы адыходніцтва з калгасаў і з усёй сур'ёзнасьцю ставіць перад Белкалгасцэнтрам, калгассаюзамі і калгасамі задачу ўсямернай садзейнасьці індустрыялізацыі краіны сыстэматычным вылучэньнем лішкаў рабочай сілы з калгасаў.

2) Апартуністычнай стаўцы на самацёк і „лявацкім“ спробам забараніць адыход бяз згоды калгасу павінна быць проціпастаўлена цьвёрдая лінія, аснованая на пастановах партыі. Не забараняючы індывідуальнага адыходу калгасьнікаў у прамысловасьць і розныя сэзонныя работы, калгасам і калгассаюзам усямерна садзейнічаць, стымуляваць і праводзіць вылучэньне і накіраваньне адыходнікаў у арганізавана-плянавым парадку па дагаварох паміж калгасамі і гаспадарчымі органамі, для чаго:

а) шырока папулярызаваць сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў важнасьць выкананьня кантрольных заданьняў па забесьпячэньні неабходнымі кадрамі прамысловасьці, транспарту і інш. галін народнай гаспадаркі;

б) аказаць адпаведныя ільготы і дапамогу адыходнікам, якія накіроўваюцца ў арганізаваным парадку (зьніжэньне процанту адлічэньняў ад заработнай платы ў карысьць калгасу ад 2 да 5, дапамога сем'ям і г. д.) шырока растлумачыўшы іх сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў;

в) разгарнуць паміж калгасамі сацспаборніцтва на лепшае выкананьне сваіх абавязкаў па адыходзе;

г) калгасам устанавіць сыстэматычную сувязь з гаспадарчымі органамі, у якіх працуюць члены калгасаў, і кантроль над выкананьнем гаспадарчымі органамі сваіх абавязкаў па дагаворам.

## Сацспаборніцтва і ўдарніцтва

Скарыстаньне творчай ініцыятывы і актыўнасьці калгасных мас зьяўляецца цэнтральнай задачай усёй калгаснай сыстэмы. Неабходна арганізаваць сапраўднае масавае ўцягненьне калгасьнікаў і калгасьніц у сацспаборніцтва і ўдарніцтва, выяўляць дасягненьне лепшых калгасаў і брыгад калгасьнікаў, рабіць іх дасягненьнем іншых калгасаў і ўсёй калгаснай сыстэмы.

Калгасцэнтр, калгассаюзы і праўленьн калгасаў павінны рашуча ўзмацніць кіраўніцтва рухам за ўкараненьне ў калгасах новых форм сацыялістычнай працы скарыстоўваючы для гэтага багацейшы вопыт рабочых арганізацый і буйных прадпрыемстваў і ўсе зьвеньні палітасьветнай масавай работы.

# Рашаючыя дні

## I

## Па-бальшавіцку змагацца за выкананьне плянаў веснавой сяўбы.

### ПАДРЫХТАВАНЫМІ ВЫХОДЗІМ У ПОЛЕ

*(Шклоўскі раён)*

Камуна „Ільліч“ арганізавалася ў 1928 г. з 7 гаспадарак на плошчы 43 *га* пахатнае зямлі. Доўгі час камунарам не адравалася зямля ў адным месцы.

Ды і што гэта за камуна на 43 *га* зямлі?

Але спаянасьць камунараў, напружаная калектыўная праца, для палепшаньня свайго становішча, паказала выгаднасьць калектыўнага жыцьця. Камунары на чале з старшынёю—арганізатарам—тав. Папковым, партыйцам, гаварылі:

— Хоць нас і не землеўпарадкоўваюць, але мы ўсё роўна будзем жыць аднэй сям'ёй і не разыйдземся.

А што мы бачым зараз?

Камуна прыкладнасьцю сваёй прыцягнула да сябе бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. Зараз у камуне знаходзіцца 37 гаспадарак з плошчаю 301 *га* зямлі пахаці. Камунары своечасова справіліся з сяўбой і ўборкай ураджаю ў 1930 г. і лішкі здалі ў каапэрацыю.

Зацьверджаны плян пасеву на 1931 г. у колькасьці: 50 *га* бульбы, 20 *га* аўса, 10 *га* ячменю, 10 *га* лёну, 18 *га* вікі як на семя, так і на корм, 4 *га* сіласу і гародніны на 5 *га*.

На свой плян пасеву забясьпечаны і пасеўным матар'ялам. Увесь насенны фонд ачышчаны на 100 проц. Машыны адрамантаваны, бо маецца свая кузьня, якая абслугоўвае і адзінаасобнікаў.

Камунары — актыўныя працаўнікі ў сельсавеце, дапамагаюць сельсавету праводзіць усе мерапрыемствы партыі і ўлады. У гэтым сельсавеце плян сяўбы давэдзен да кожнага двара.

Добры прыклад работы камуны адчуваецца і сярод акаляючых вёсак. Акаляючыя вёскі арганізоўваюцца ў арцелі. За час падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы пад уплывам камуны ў Таўкачоўскім сельсавеце арганізавана 5 новых калгасаў, Барскавічы 32 гаспадаркі, Таўкачы 18 гаспадарак, Ляхаўка 10 гаспадарак і г. д. Праца па арганізацыі новых арцеляў праводзілася пры дапамозе камунараў камуны „Ільліч“.

Камуна заключыла ўмову з МТС. Можна сьмела сказаць, што веснавая сяўба пройдзе па-бальшавіцку.

Г. Шумілаў.

# ПА НОВАМУ ШЛЯХУ

*(Вушацкі раён)*

### Жылі па старынцы

Вёскі Слабада, Пяскі, Навасельле, Ляхі і акаляючыя іх, Сарочынскага сельсавету, доўгі час жылі па старынцы. Палі гэтых вёсак былі апавіты высокімі абросшымі быльняком межамі, а вясной і восеньню ў глыбокіх разорах каля меж сінела вада.

Праходзіў час і ў кожную вясну беднякі цярпелі бясхлебіцу, а кулакі „дапамагалі“ ім выйсьці з цяжкага становішча, давалі па гарчыку таго-сяго ўдоўг, на адработку ў летні час...

### Разгаралася клясавая барацьба

Так жыць далей было нельга. Трэба было думаць аб палепшаньні жыцьця.

І вось, 16-га сьнежня 1929 году беднякі і серадзякі памянёных вёсак сабраліся на сход, каб абгаварыць сваё становішча. Кулаком гэта не спадабалася. Яны таксама прышлі на сход і хацелі ўсё павярнуць на свой бок. Але ня так вышла. Беднякі і серадзякі загаварылі аб арганізацыі калгасу.

Шмат гаманілі на сходзе.

Усе прысутныя падзяліліся на дзьве часткі. Адны хацелі калгас, другія бачылі ў гэтым сваю гібель.

— У калгас і больш нічога,—крычалі беднякі і серадзякі.

— Жыць па-старому, як і дагэтуль,— падавалі голас кулакі і заможнікі.

Усё-ж такі, бедната з серадзякамі перамагла. Арганізавалі калгас „Новы Шлях“.

Усяго ў той час у калгасе „Новы Шлях“ налічвалася 52 гаспадаркі. Потым некаторыя, больш заможныя серадзякі, захісталіся, вышлі з калгасу. Бедната яшчэ больш згуртавалася ў барацьбе за новае жыцьцё пад кіраўніцтвам партыі.

### Першая вясна

Калгас „Новы Шлях“ ударна працаваў у першую бальшавіцкую вясну. Палявыя работы былі закончаны з перавыканань-



Ударнік—трактарыст на пробным выезьдзе ў поле.



Сяўба ў калгасе.

нем плянаў раней, чым у аднаасобнікаў.

— Ні аднаго прагулу!—пад такім лёзунгам калгасьнікі бралі вышыні першай бальшавіцкай вясны.

Па-ўдарнаму „Новы Шлях“ правёў і ўборачную кампанію. Ні аднаго снапа збожжа, ніводнага фунта сена не засталося на полі. Плян засеву азімых перавыкананы. Гэта стварыла калгасу аўтарытэт і забясьпечыла яго далейшы рост.

На сёнешні дзень у калгасе налічваецца 85 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Кулацкая частка вёскі Слабада вядзе шалёную агітацыю супроць калгасу. Беднякі гэтай вёскі добра ведаюць індывідуальна абкладзенага Сьцяпана. Але калі 30-га сакавіка гэтага году Сьцяпан патаемна склікаў сход, яны прынесьлі свае заявы ў калгас і заявілі:

Прымеце ў калгас, а з Сьцяпанам ня хочам і знацца.

### Экзамен другой бальшавіцкай

29 сакавіка калгас „Новы Шлях“ рабіў пробны выезд у поле. Гэта быў экзамен, на колькі калгас гатоў да другой бальшавіцкай сяўбы.

Толькі таму, што калгасьнікі не сядзелі склаўшы рукі, а па-ўдарнаму, дружна працавалі, можна пахваліцца вынікамі. Коняй у калгасе 66 штук, а плугоў падрыхтавана 75. Працаздольныя мужчыны возяць лес, а старыкі гэтым часам наладзілі хамуты, цягі, ворчыкі.

Насенфонд у калгасе створаны з 551,5 цэнтнэра. 25 цэнтнэраў страхфонд. Асаблівы ўпор зроблены на тэхнічныя і кармавыя культуры. Завезена ўгнаеньня: 6 тон супэрфасфату і 4 тоны касьцяной мукі. Акрамя таго, калгаснай школай сабрана паўтары тоны драўлянага попелу.

Аднаасобнікі акаляючых вёсак ня маюць корму. А калгас „Новы Шлях“ 950 пудоў сена і 455 пудоў аўса забраніраваў на час веснавых работ. У калгасе ўсё насеньне гатунковае.

„Новы Шлях“ дапамагае іншым калгасам і беднякам-аднаасобнікам. Ён мае добрую кузьню, у якой працуюць тры ўдарнікі.

Пробны выезд у поле паказаў, што калгас выканае ўсе пляны веснавой сяўбы з перавышэньнем.

### Пэрспэктывы спэцыялізацыі

Калгас „Новы Шлях“ мае сьвінаводны ўхіл. Налічваецца 47 дарослых сьвіней і 15 парасят. Лік недастатковы, але прымаюцца ўсе меры да яго павялічэньня.

У калгасе будуецца вялікі сьвінарнік. Да часу выезду ў поле для сяўбы ён будзе пабудаваны.

**Ліпаўка Янка**
**і Гінзбург Янка.**

# Упартай працай узмацняецца і пашыраецца калгас „Праца“

*(Смалявіцкі раён)*

## Зарунела калгасная зямля

Каб выйсьці з цяжкага становішча беднякі з в. Мглё арганізавалі ўвосень 1929 году калгас. У калгас увашло 42 гаспадаркі, з якіх 132 працаздольных сябры.

З вясны 1930 году калгас карыстаецца 306 *га* пахаці, 45 *га* сенажаці, 2 *га* гароду і 5 *га* выгану. Калгас мае коняй 51, з якіх 42—рабочых, а 9—маладняк, дойных кароў—20 і 8 цялят, два быкі-вытворцы, 18 сьвіней, ёсьць каля 50 штук авечак.

У 1930 годзе ў калгасе ўведзены дзесяціпольны севазварот. Сельска-гаспадарчых машын калгас яшчэ мае недастаткова: 1 жняярка, 2 веялкі, плугі, бароны простыя і „зіг-заг“ і другі інвэнтар. Для перагонкі малака ёсьць сэпаратар.

На ўсю працу па калгасу, як та: палявыя работы, лугавыя, работа ў лесе і г. д. калгасьнікі ў 1930 г. затрацілі агулам 17947 працадзён. Валавы прыбытак вызначыўся лічбай 38953 руб. 70 кап.

Чысты прыбытак, што ідзе на разьмеркаваньне паміж калгасьнікаў, вызначаецца ў 13579 руб. 60 к. У непадзельны капітал калгасу адлічана сума ў 1482 р., у культфонд 327 р. 20 кап.

Прынцып разьмеркаваньня прыбытку сярод калгасьнікаў—разьмеркаваньне па працаднёх.

На кожнага калгасьніка працаздольнага прыпадае 40 пудоў бульбы, а на непрацаздольнага — 20 пуд. Некаторыя сем'і атрымалі па 35 пудоў ячменю і па 27 пудоў пшаніцы, чаго яны ніколі не маглі здабыць будучы аднаасобнымі гаспадарамі.

У фонд для непрацаздольных адлічана сума ў 818 р. На кожнага непрацаздольнага будзе выдадзена 9 р. 85 к. або прадуктаў на гэту суму.

Увосень 1930 году калгас „Праца“ першым у межах Смалявіцкага раёну адвёз чырвоным абозам і здаў загатоўчым органам 480 пудоў жыта, акрамя гэтага здадзены як лішкі для калгасу: пшаніцы 100 пудоў, ячменю 120 пудоў, аўса—200 пуд., таксама здадзены сьвіньні, каровы і цяляты на мясазагатоўку.

## Падрыхтаванымі сустракаюць калгасную вясну

Увесну гэтага году будзе засеяна: жыта (пасеў восені 1930 г.)—65 *га*, пшаніцы—12 *га*, аўса—58 *га*, ячменю—18 *га*, бульбы—61 *га*, гароху—5 *га*, лёну—6 *га*, кораньплодаў — 2 *га*, вікі — 14,5 *га*, сэрадэлі—5 *га*, лубіну на гной—28 *га*, на насеньне — 5 *га*, кукурузы — 2 *га*, гароду—2 *га*, іншыя—2 *га*.

Параўнальна з сяўбой вясны 1930 г. у гэтым годзе будзе значна павялічана плошча пад пасевам бульбы (у мінулым





Вышэй сьцяг суцэльнай калектывізацыі сельскай гаспадаркі і на гэтай аснове ліквідуем кулацтва як клясу.

годзе — 26 *га*). Гэта тлумачыцца тым, што калгас „Праца"—гаспадарка з сьвінагадоўчым ухілам, дзе будзе згуртавана значная колькасьць сьвіней.

Будзе расьсеяна 1000 пудоў суперфасфату, 15 тон вапны, 600 пудоў касьцяной мукі. Праведзена ачыстка насеньня—ачышчана 152 цэнтнэры зерня. Калгас у гэтым годзе поле сваё засявае гатунковым насеньнем. Ёсьць 152 цэнт. гатунковага насеньня. Гэта ўсё будзе значна спрыяць падвышэньню ўраджайнасьці, палепшаньню дабрабыту калгасьнікаў.

### Ударнікі першага году

Ініцыятарамі арганізацыі калгасу „Праца" былі мясцовыя камуністы з Юраўскай ячэйкі КП(б)Б і беднякі. Першыя, хто па-ўдарнаму пачалі працаваць у калгасе,—гэта Пётра Буцько—камуніст, Рыгор Даўгалёнак, Алесь Войтка, Няшкевіч, Жукоўскі Мікіта.

У канцы гаспадарчага году (8-II—31г.) праўленьне калгасу пастанавіла самым актыўным калгасьнікам даць назву ўдарнікаў — гэрояў працы. Гэтая пастанова праўленьня зацьверджана і агульным сходам калгасьнікаў. Да ліку ўдарнікаў-гэрояў працы належаць: 1. Андрэй Красоўскі—б. бядняк, выконвае працу начнога вартаўніка, 2. Барыс Блешчык—б. бядняк, старшы канюх, сябр праўленьня, 3. Адам Ванзонак — б. бядняк, працуе на стайні, 4. Алесь Войтка — б. серадняк, актыўны добрасумленны калгасьнік, сябр праўленьня, 5. Іван Даўгалёнак—прыкладны працавіты калгасьнік і Васіль Ванзонак, Іван Шлёнскі, Сашка Шлёнскі, Васіль Фурсэвіч, Алёшка Фурсэвіч—таксама працавітыя прыкладныя калгасьнікі. Сярод жанчын таксама ёсьць актыўныя калгасьніцы, як Зося Мятліцкая, Агапа Ванзонак, Домка Фурсэвіч.

Дзякуючы таму, што калгас праводзіць вялікую масавую работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас акаляючых вёсак, — калгас карыстаецца аўтарытэтам і мае прыліў. Прыліў у калгас адбываецца ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы вакол калгасу; кулацтва шалёна агітуе сярод бядняцка-серадняцкіх мас—аднасобнікаў супроць калгасу. Кулацтва ўсімі мерамі стараецца пашкодзіць калгаснаму руху, але ўсялякая кулацкая хлусьня разьбіваецца аб яскравыя дасягненьні калгасаў, аб рашучы наступ сацыялізму.

Мікалай Войтка.

# Яўрэі беднякі будуюць новае жыцьцё

*(Жыткавіцкі раён)*

На адлегасьці некалькіх дзесяткаў мэтраў ад чыгункі можна заўважыць новыя, толькі што адбудаваныя будынкі. Гэтыя будынкі належаць яўрэйскай сельска-гаспадарчай арцелі „ОЗЕТ“.

Арцель складаецца з 19 сямей і 9 адзіночак яўрэяў—беднякоў, існуе другі год і мае даволі значныя дасягненьні. Адбудаваны кароўнік на 240 кароў, канюшня, сьвіран, каменная сілосная вежа, якая поўнасьцю засіласавана, таксама на скотным двару пабудавана цамэнтная і дубовая студня.

Арцель мае жывёлагадоўчы напрамак. Зараз маецца 62 каровы, 3 бугаі, 5 падцёлкаў і 24 цялёнкі. Акрамя гэтага ў асабовым карыстаньні калгасьнікаў маецца 15 кароў. Усе лішкі малака калгасам здаюцца ў сталоўку спажывецкай каапэрацыі. Адчуваецца недахоп у дастаткова́й меры сакавітых кармоў, адсутнічаюць жмыхі. Коняй калгас мае 17 штук.

Зямля ў ліку 100 *га* атрымана ад лішэнцаў.

Арцель „Озет“ на першым гаду свайго існаваньня сабрала пасеў: аўсянага сіласа 1,5 *га*, гародніны 4 *га*. Засеяна азімага жыта 13 *га*, пры гэтым 9 *га* засеяна радавой сеялкай.

У гэту вясну пасеў яравых культур значна пашыраецца.

На першых парах, арцель забясьпечана інвэнтаром. Маецца вазоў на жалезным ходу 22 шт., плугоў аднालямешных 6, двухлямешны плуг, барон „Зіг-заг“ 7 шт., акучнікаў 3, саламарэзка з конным прыводам, сенакасілка, агародная сеялка і палольнік.

Адзін з калгасьнікаў знаёмы з садаводнай справай і арцель намячае разьвесьці сад і ягаднік. Давясьці статак буйнай рагатай жывёлы да 100 галоў. Распачаць пабудову дома на 12 кватэр, бо справа з памяшканьнем абстаіць ня зусім здавальняюча.

Няма клюбу, дзе можна было-б праводзіць палітасьветную працу сярод калгасьнікаў. Ёсьць яшчэ недахопы і цяжкасьці.

Акаляючае сялянства зараз упэўнілася, што і яўрэі беднякі могуць працаваць на сельскай гаспадарцы. Кулакі толькі гадзінамі сыкаюць на яўрэйскую арцель: „каб ня яўрэі, дык бедняку засталося-б больш зямлі“,—гавораць яны.

Але бядняцка-серадняцкія масы сялянства ня вераць кулацкай хлусьні, адносяцца да яўрэяў-калгасьнікаў, як да працоўных, якія змагаюцца за новае жыцьцё.

**Снытко Юрка.**

**„... не яўрэі ворагі працоўных. Ворагі рабочых капіталісты ўсіх краін. Сярод яўрэяў ёсьць рабочыя, працаўнікі, іх большасьць. Яны нашы браты па прыгнечаньню капіталам, нашы таварышы па барацьбе за сацыялізм“ (Ленін, том XX, ч. II).**



Трактарысты выяжджаюць на поле

# НА ШЛЯХУ ДА ПЕРАМОГІ

*(Заслаўскі раён)*

— Даводзілася ўсяк жыць,—апавядае кожнаму прыяжджаючаму стары дзед-калгасьнік Тамаш,—да масьлянай не хапала хлеба нашай беднаце Слабодзкай. Прасілі ў заможных, а яны потым у тры дарагі бралі за гэта адработкамі. А цяпер у калгасе, хапае ўсяго, працуем усе шчыра.

Калгас „КІМ“, у якім жыве стары Тамаш, арганізаваўся ў жорсткай клясавай барацьбе ўвосень 1929 г. Ініцыятарамі арганізацыі калгасу былі камсамольцы. Шмат давялося папрацаваць маладым энтузіястым для таго, каб дабіцца згоды 2-х гаспадарак і 5 адзіночак пайсьці ў супольнае жыцьцё. А кулакі насьміхаліся, сыкалі з-за вугла:

— Будзе толькі з іх калгасу... прыдуць вясною прасіць хлеба, ды не дадзім.

Але маладыя калгасьнікі ня слухалі кулакоў, упарта браліся за калектыўную працу. Дружнай працаю пры вялікай дапамозе свайго шэфа N-ай дывізіі і саўгасу „Беларусь“ калгасьнікі пераможна правялі першую бальшавіцкую сяўбу. Ураджай удаўся добры і ўборку правялі калгасьнікі своечасова. Беднякі і серадня кі—аднаасобнікі прыхільна пачалі адразу адносіцца да калгасу, бо ўбачылі, што толькі калектыўнай працай можна палепшыць свой дабрабыт. А кулакі і падкулачнікі яшчэ горш засыкалі.

— Усёроўна ня будзе калгасу,—гаварылі яны ў вёсцы.

Кулакі ўбачылі, што агітацыяй і ўсякай хлусьнёй не ўдаецца пашкодзіць замацаваньню і пашырэньню калгасу, таму яны перайшлі да прамога шкодніцтва. І вось, калі калгасьнікі прыбіралі ў полі бульбу—кулакі падпалілі калгаснае гумно, у якім было складзена ўсё збожжа калгасьнікаў. Пагарэла жыта, авёс, ячмень, віка, малатарня, веялка і толькі нязначная частка збожжа ўцалела. Страт калгас панёс ад пажару звыш як на 6 тысяч рублёў.

Але і кулацкага шкодніцтва калгасьнікі ня спужаліся.

Яшчэ шчыльней згуртаваліся для перамагі ўсялякіх перашкод і цяжкасьцяй. і дзякуючы таму, што дружна і актыўна працавалі, палепшылася матар'яльнае становішча калгасьнікаў, і акаляючыя беднякі і серадня кі пачалі падаваць заявы аб уступленьні ў калгас.

Сёньня калгас мае ў сваім складзе ўжо 40 сямей і 6 чалавек адзіночак. Значна пашырылася плошча калгаснай зямлі; ёсьць рабочых коняй—28, жарабят—8, абагуленых кароў—86, цялят—18, сьвіней—34, авец—35. Калгас мае шмат земляробскіх машын, плугоў. Шмат дапамагае калгасу праз рабочыя брыгады Менскі завод дрэваапрацоўшчык.

Калгас „КІМ“ падрыхтавана выступае ў поле ў веснавую сяўбу і правядзе яе з посьпехам.

Русовіч Віктар.

# ІНСТРУКЦЫЯ
## аб арганізацыі зьдзельных работ у калгасах

1) Зьдзельшчына павінна быць уведзена ва ўсіх калгасах і па ўсіх галінах гаспадаркі, абавязкова і ў першую чаргу зьдзельшчына ўводзіцца па наступных работах: а) успашка, б) баранаваньне, в) дыскаваньне, г) пасеў, д) пасадка бульбы і гародніны, е) матыкаваньне, поліва, прарэджваньне і абсыпка, ж) касьба, з) жніво і вязаньне снапоў, і) уборка і апрацоўка ільну і канапель, к) выбіраньне бульбы і караньплодаў, л) збор яблык і ягад, м) малацьба, н) догляд саду і о) догляд рабочай і прадукцыйнай жывёлы.

2) Для пераходу на зьдзельны парадак работ у кожным калгасе неабходна:

а) па кожным відзе работ у гаспадарцы вызначыць цьвёрдыя нормы выпрацоўкі, гэта значыць, устанавіць, якую колькасьць тэй, або іншай работы можа і павінен выканаць за рабочы дзень адзін работнік;

б) стварыць зьдзельную расцэнку работ у працаднёх;

в) вызначыць сталыя брыгады для абслугоўваньня жывёлагадоўлі, прадпрыемстваў і іншых пастаянных на працягу ўсяго году работ у гаспадарцы;

г) стварыць патрэбны лік брыгад забясьпечваючых выкананьне ўсіх работ у паляводзтве і ў першую чаргу работ надыходзячай вясеньняй с.-г. кампаніі;

д) брыгады ствараюцца ў адпаведнасьці з рашэньнямі 1-й Усесаюзнай і Ўсебеларускай нарады калгасьнікаў па арганізацыі працы ў калгасах і на грунце разьлікаў гадавога вытворчага пляну і рабочых плянаў па асноўных пэрыядах с.-г. работ. Памер і склад кожнай брыгады вызначаецца памерам і характарам даручаемай для выкананьня работы ці абслугоўваньня пэўнай галіны гаспадаркі. Прыкладны памер брыгад у паляводзтве 20—30 асоб. У дробных калгасах магчымы і значна меншыя брыгады, як 10 і нават 5 асоб.

3) Для вызначэньня зьдзельнай расцэнкі работ у працаднёх усе работы ў гаспадарцы разьбіваюцца на: 1) лёгкія, 2) сярэднія, 3) цяжкія і патрабуючыя спэцыяльнага вопыту і 4) кваліфікаваныя работы. Аднадзенная норма выпрацоўкі лёгкіх работ расцэньваецца ў $^3/_4$ працадня, сярэдніх—1, цяжкіх—$1^1/_4$ і кваліфікаваных $1^1/_2$ працадня.

4) Зьдзельная расцэнка адзінкі работы ўстанаўляецца шляхам падзелу расцэнкі аднадзеннай нормы выпрацоўкі ў працаднёх на самую норму выпрацоўкі. Напрыклад, трэба ўстанавіць зьдзельную расцэнку ў працаднёх 1 га ўспашкі аднаконным плугам. Вызначана норма $^1/_2$ га ў дзень, работа гэтая сярэдняя і расцэньваецца ў адзін працадзень. Дзелім зьдзельную расцэнку аднадзеннай нормы выпрацоўкі, г. зн. 1 працадзень на аднадзенную норму выпрацоўкі, г. зн. $^1/_2$ га і атрымліваем, што ўспашка аднаго га ў даным выпадку расцэньваецца у 2 працадні (1,0 0,5=2,0 працадні).

5) Для ўстанаўленьня зьдзельнай расцэнкі работы прымаецца за адзінку работы:

а) на работах па ўспашцы, баранаваньні, сяўбе, касьбе, жніве, поліве і г. д.—адзін гектар, як аб гэтым сказана ў п. 4-м гэтай інструкцыі.

б) пры малацьбе, выбіраньні бульбы і караньплодаў, уборцы і сартыроўцы садавіны і гародніны, апрацоўцы ільну, канапель і г. д.—адзін цэнтнэр ці тона прадукцыі. Напрыклад, аднадзенная норма выпрацоўкі па зьбіраньні бульбы за плугам 5 сотак га на 1 работніка, ці 20 работнікаў на 1 га пры сярэднім ураджаі бульбы ў 166 цэнтн. з га. Работа гэтая лёгкая і расцэньваецца ў $^3/_4$ альбо 0,75 працадня ці 15 працадзён за ўборку 1 га (0,75 : 0,05=15), альбо дзевяць сотак працадня за цэнтнэр (15:166=0,09);

в) па даглядзе саду—пэўны лік дрэў і кустоў. Напрыклад:

1. Выкопваньне ям для пасадкі маладых дрэў, норма выпрацоўкі на 1-го работніка ў дзень—12 ям. Работа гэтая адносіцца да цяжкіх і патрабуючых спэцыяльнага вопыту і расцэньваецца ў $1^1/_4$ працадня альбо $^1/_{10}$ працадня за 1 яму.

2. Прарэджваньне крон у старым садзе. Норма выпрацоўкі на 1-го работніка ў дзень 10 дрэў. Работа гэтая адносіцца да цяжкіх і патрабуючых спэцыяльнага навыку і расцэньваецца ў $1^1/_4$ працадня альбо 13 сотак працадня за кожнае дрэва (з акругленьнем).

г) па жывёлагадоўлі—колькасьць даглядаемай жывёлы або адзін кілёграм ці цэнтнэр малака, мяса, шэрсьці і т. д. Напрыклад:

1. Скотніку даручаецца па вызначанай норме выпрацоўкі даглядаць 16 кароў. Работа гэтая адносіцца да цяжкіх і патрабуючых спэцыяльнага вопыту і расцэньваецца ў $1^1/_4$ працадня, што складае 8 сотак працадня (з акругленьнем) за кожную галаву даглядаемай жывёлы.

2. Пры сярэднім сутачным удоі ад 1 каровы ў 5 клгр. малака і 3-разовым даеньні на 1 даярку вызначаецца 15 кароў. Работа гэтая адносіцца да цяжкіх і патрабуючых спэцыяльнага навыку і расцэньваецца ў $1^1/_4$ працадня. Агульны сутачны ўдой ад 15 кароў ў даным выпадку будзе раўняцца 75 клг., а зьдзельная расцэнка 1 клг. малака будзе 2 соткі працадня (1,25:75=0,02)—з акругленьнем.

Гэткім-жа парадкам вызначаецца зьдзельная расцэнка ў працаднёх аднэй адзінкі прадукцыі і пры астатніх работах па доглядае прадукцыйнай жывёлы і птушкі, а таксама на работах пры малацьбе, уборцы садавіны, гародніны і інш.

6) Асноўнымі відамі зьдзельшчыны зьяўляецца аднаасобная і групавая.

7) Пры аднаасобнай зьдзельшчыне падлік колькасьці і якасьці выкананай работы робіцца для кожнага работніка асобна, згодна якому яму і налічваецца адпаведная колькасьць працадзён. Таму



паасобная зьдзельшчына ўводзіцца на тых работах і ў тых выпадках, дзе магчыма і неабходна вылучыць і падлічыць працу кожнага колгасьніка ў паасобку.

8) На работах, дзе цяжка і немагчыма вылучыць і падлічыць работу кожнага калгасьніка ў паасобку, як: малацьба, уборка сена брыгадай, сіласаваньне кармоў і інш. уводзіцца групавая зьдзельшчына. Падлік колькасьці і якасьці выкананай работы пры групавой зьдзельшчыне робіцца па ўсёй групе цалкам.

9) Разьлік за выкананую групай работу робіцца наступным парадкам:

а) калі за час работы ня было прагулаў і ўся работа выконвалася адным і тым-жа складам работнікаў у брыгадзе, дык кожнаму работніку налічваецца аднолькавая колькасьць працадзён. Напрыклад: брыгада плугароў у складзе 10 асоб узарала 50 га пахаці, работа гэтая ацэньваецца ў 100 працадзён. Кожнаму работніку ў даным выпадку залічваецца па 10 працадзён (100:10=10).

б) калі асабовы склад брыгады мяняецца, альбо маюцца нявыхады на работу, разьлік робіцца, выходзячы з колькасьці выкананай работы кожным колгасьнікам. Напрыклад: з агульнага складу брыгады ў 10 асоб, 7 асоб узаралі па 10 га кожны, 2 асобы—па 7 га, 1—8 га і 2—па 4 га. Выходзячы з расцэнкі 1-го га за 2 працадні, налічваецца па дзесяць, семь, восем і па чатыры працадні кожнаму калгасьніку, адпаведна колькасьці выкананай ім работы.

10) Выходзячы з прынятых калгасам норм выпрацоўкі і зьдзельнай іх расцэнкі, кожнай брыгадзе калгасьнікаў, перад пачаткам работы ў нарадзе вызначаецца ня толькі пэўная колькасьць работы, але і зьдзельная яе расцэнка ў працаднёх. Робіцца гэта, прыкладна, наступным парадкам:

А) Возьмем, напрыклад, работу па падрыхтоўцы глебы і па пасеве зернавых культур на плошчы 100 га, якая даручаецца брыгадзе выканаць за 10 дзён. Для выкананьня гэтай работы ў працягу 10 дзён патрабуецца утварыць такую брыгаду, якая змагла-б штодзенна ўзараць, забаранаваць і засеяць плошчу ў 10 га.

| Назва работы | Вызначаецца для работы | | | Норма выпрацоўкі за 10-гадз. рабоч. дзень усёй брыг. | Зьдзельн. расцэнка работы ў працаднёх | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць машын і прылад | Коняй | Людзей | | 1 га | Усёй плошчы 100 га | |
| 1. Успашка адналямешным плугам без передка . . . . | 20 | 20 | 20 | 10,0 га | 2,0 | 200,0 | |
| 2. Баранаваньне ў 2 сьляды 3-зьвеннай бараной „Зіг-Заг" . . . | 5 | 10 | 5 | 10,0 | 0,4 | 40,0 | |
| 3. Пасеў 2-радковай сашніковай сеялкай . | 4 | 8 | 8 | 10,0 | 0,8*) | 80,0 | *) Сейбіт--0,5 і пагоншчык 0,3 працадні з 1 га пасеву |
| РАЗАМ . . | — | 38 | 33 | 10,0 га | — | 320 | |
| 4. Падвозка насеньня, фуражу і харчоў пры адлегласьці сядзібы да 3-х кілёмэтраў . . . . . | — | 2 | 1 | — | 0,10 | 10,0 | |
| УСЯГО . | — | 40 | 34 | 10,0 га | — | 330,0 працадзён | |

Б) Пасеў зернавых па асеньняй успашцы (баранаваньне і сяўба) на плошчы, напрыклад, 100 га, тэрмін выкананьня 5 дзён, альбо 20,0 га штодзенна.

| Назва работ | Вызначаецца для работы | | | Норма выпрацоўкі за 10 гадзін. рабочы дзень усёй брыгадай | Апрацаваць усяго га | Зьдзельн. расцэнка работы ў працаднёх | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Машын і прылад | Коняй | Людзей | | | 1-го гкт. | Усёй работы | |
| 1. Баранаваньне ў 2 сьляды: | | | | | | | | |
| а) 3-зьвеннай бараной „Зіг-Заг" . . . | 5 | 10 | 5 | 10,0 га | 50 | 0,4 | 20 | |
| б) Звычайн. бараной з жалезн. зубамі . . . | 10 | 10 | 5 | 10,0 | 50 | 0,4 | 20 | |
| 2. Пасеў радковы: | | | | | | | | |
| а) 11-радковай сеялкай . . | 5 | 10 | 10 | 15,0 | 75 | 1,0 | 75,0 | |
| б) 9-радковай сеялкай . . | 2 | 4 | 4 | 5,0 | 25 | 1,2 | 30,0 | |
| РАЗАМ | — | 34 | 24 | 20,0 | 100 | — | 145 | |
| 3. Падвозка насеньня, фуражу і харчоў для брыгады пры адлегласьці ад сядзібы да 3 клм. . . . | — | 4 | 2 | — | — | 4,0 | 10,0 | |
| УСЯГО. | — | 38 | 26 | 20,0 | — | — | 155 | |

В) Падрыхтоўка глебы і пасадка бульбы на плошчы 60 га, тэрмін выкананьня, напрыклад, 6 дзён. Штодзенная норма выпрацоўкі (агульная ў даным выпадку) будзе 10 га.

1. Падрыхтоўка глебы (успашка і баранаваньне).

| Назва работ | Вызначаецца для работы. | | | Норма выпрацоўкі за 10 гадзін. рабоч. дзень | Усяго апрацаваць га | Зьдзельная расцэнка работы ў працаднёх | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Машын і прылад | Коняй | Людзей | | | 1-го гкт. | Усёй работы | |
| 1. Успашка глебы: | | | | | | | | |
| а) звычайн. аднаконн. плугам | 8 | 8 | 8 | 4,0 га | 24 | 2,0 | 48 | |
| б) перадковым плугам „Сакка" | 8 | 16 | 8 | 6,0 га | 36 | 1,6 | 58,0 | |
| 2. Баранаваньне глебы ў 2 сьляды 3-зьвеннай баран. „Зіг-Заг". . . . | 5 | 10 | 5 | 10 га | 60 | 0,4 | 24,0 | |
| РАЗАМ. | — | 34 | 21 | 10 га | 60 | — | 130 | |

2. Пасадка бульбы адналямешным плугам.

| Назва работ | Вызначаецца для работы | | | Норма выпрацоўкі за 10 гадзін. рабоч. дзень | Зьдзельная расцэнка работы ў працаднёх | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Машын і прылад | Коняй | Людзей | | 1-го гкт. | Усёй работы | |
| 1. Правядзеньне баразён 1-лямешным плугам . . | 20 | 20 | 20 | 10,0 га | 2,0 | 120 | |
| 2. Пасадка бульбы за плугам . | — | — | 80 | 10,0 га | 5,0 | 300,0 | |
| 3. Падвозка бульбы на адлегласьці да 2-х кілёмэтраў . | — | 8 | 4 | — | 0,5 | 30,0 | |
| | — | 28 | 104 | 10 га | — | 450,0 | |

Для выкананьня работы па пасадцы бульбы непасрэдна ў даным выпадку трэба стварыць 4 асобныя брыгады, кожная ў наступным складзе:

а) 5 плугароў з 5 аднаконнымі плугамі;

б) 20 асоб для ўкладваньня бульбы ў барозны;

в) 1-ой асобы для падвозкі бульбы;

г) 7 коняй (5 для ўспашкі і 2 для падвозкі бульбы).

Для кожнай брыгады вызначаецца асобны вучастак работы.

11) Пры пераходзе на зьдзельны парадак работ асабліва вялікае значэньне мае назіраньне і кантроль за якасьцю выконваемых работ. Таму на кожнай зьдзельнай рабоце вызначаюцца пэўныя якасныя паказчыкі, суровае захаваньне якіх абавязкова для кожнай брыгады, групы і асобных калгасьнікаў пры выкананьні імі зьдзельных работ. Напрыклад, у паляводзтве вызначаецца глыбіня ўспашкі, недапушчальнасьць агрэхаў, нормы высеву пры лепшым утрыманьні цягавай сілы і інвэнтару і г. д. У жывёлагадоўлі: парадак і нормы харчаваньня жывёлы, парадак яе ўтрыманьня і догляду, чыстата дойкі, назіраньне за станам і здароўем жывёлы, нармальнае разьвіцьцё яе, асабліва маладняку і г. д. Пры невыкананьні вызначаемых якасных паказчыкаў пры зьдзельных работах абавязкова ўтвараецца адпаведнае зьніжэньне выпрацаваных працадзён. Для гэтага кожны колгас устанаўлівае памер і парадак зьніжэньня прынятых ім расцэнак у працаднёх у кожным асобным выпадку. У выпадках зусім нядбайных адносін да работы і дрэннага якаснага яе выкананьня, работы могуць зусім бракавацца і належачыя за іх выкананьне працадні не залічваюцца.



12) Для кіраўніцтва работай брыгад разьмеркаваньне работ унутры брыгады, уліку колькасьці і якасьці выконваемай брыгадай і кожным калгасьнікам работы, на чале кожнай брыгады вызначаецца брыгадзір, з найбольш вопытных і праявіўшых сябе калгасьнікаў і калгасьніц, арганізатараў і актыўных удзельнікаў ў сацспаборніцтве і ўдарніцтве.

У дробных калгасах абавязкі брыгадзіраў могуць ускладацца на кіраўнікоў асобных галін гаспадаркі (паляводаў, жывёлаводаў і інш.).

13) Работа брыгадзіраў, а таксама кіраўнікоў асобных галін гаспадаркі і членаў праўленьня калгасу, па кіраўніцтве гаспадаркай і працай ацэньваецца пэўнай колькасьцю працадзён, якая вызначаецца агульным сходам калгасьнікаў, выходзячы з нагрузкі кожнага з іх работай па кіраўніцтве. Тыя-ж работы, якія яны выконваюць разам з іншымі калгасьнікамі па нарадах у брыгадах і групах ацэньваюцца ў працаднёх на агульных падставах зьдзельшчыны.

14) Выкарыстоўваючы вопыт лепшых калгасаў і кіруючыся гэтай інструкцыяй і рашэньнямі Усесаюзнай парады па арганізацыі працы ў колгасах і 3 Усебеларускага зьезду колгасаў, работа па пераходзе на зьдзельшчыну райколгассаюзамі і калгасамі павінна быць разгорнута такім тэмпам, каб не пазьней 15 красавіка зьдзельшчына была ўведзена ва ўсіх калгасах.

15) Не пазьней 15-га красавіка г. г. райкалгассаюзы паведамляюць Калгасцэнтр БССР аб выніках пераходу калгасаў на зьдзельшчыну па наступнай форме.

| Назва работ па галінах гаспадаркі, пераведзеных на зьдзельшчыну | Лік калгасаў | Увага |
|---|---|---|
| 1. Паляводзтва: | | |
| а) успашка глебы . . . . . | | |
| б) баранаваньне . . . . . | | |
| в) і г. д. . . . . . . | | |
| 2. Жывёлагадоўля | | |
| а) догляд рабочай жывёлы . . . . | | |
| б) „ прадукцыйнай жывёлы . . . . | | |
| в) дойка кароў . . . . . | | |
| г) і г. д. . . . . . . | | |
| 3. Садоўніцтва і гародніцтва: | | |
| а) . . . . . . . . | | |
| б) . . . . . . . . | | |

**Калгасцэнтр БССР.**

**Бальшавіцкім правядзеньнем веснавой сяўбы і своечасовай уборкай ураджаю забясьпечым краіну харчамі і сырцом у трэцім годзе пяцігодкі.**

## ЗЬМЕСТ



## Перапіска з селькорамі.

**Шабайлаў Ягор** (Крупскі раён). Ваш артыкул „Арганізаваўся новы калгас" ня будзе зьмешчан. Вы напісалі толькі адбыўшыся факт арганізацыі, а як калгас працуе, як ён падрыхтаваўся да веснавой сяўбы—нічога ня пішаце.

Напішэце, як калгас праводзіць веснавую сяўбу.

**Яршоў** (Полацкі раён). Ваш артыкул ня пойдзе. Напісан агульна, бяз лічбаў і фактаў. Пішэце, як ваша камуна змагаецца за выкананьне плянаў веснавой сяўбы. Як справа з пераходам на зьдзельшчыну.

**Гаеўскі і Анэт** (Крычаў). Дасланы нарыс пойдзе. Пішэце яшчэ.

**Яфрэмаў** (Мазырскі раён). Артыкул „У бой за гароды" ня пойдзе. Спазьніўся. Пішэце, як трэба даглядаць калгасныя гароды.

**Яроменка М.** (Полацкі раён). Нарыс пра камуну „Чырвоны артылерыст" добры, але пра гэтую камуну ўжо быў нарыс у часоп. „Шляхі Калектывізацыі" № 6 за 1931 год.

Пішэце, як ідзе сяўба, ці перашлі на зьдзельшчыну, як ажыцьцяўляецца рашэньне 3-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў.

**Самуйлёнак** (Полацк). Нарыс „Твар радавога байца" пойдзе.

Пішэце яшчэ.

**Дымкоў** (Глускі раён). Ваш артыкул ня пойдзе. Вельмі ўжо агульны.

Пішэце, як арганізаваць добры вучот у калгасе з пераходам на зьдзельшчыну.

**Русовіч Віктар** (Заслаўскі раён). Некаторыя вашы допісы скарыстаем, а значная частка іх не падыходзіць. Старайцеся пісаць больш канкрэтна і падавайце факты, інакш допісы атрымоўваюцца агульнымі, непадыходзячымі да друку.

**Цэхановіч В.** (Ветрына). Допіс аб падрыхтоўцы вашай камуны да сяўбы не падыходзіць. Вельмі агульны, а пададзеныя некаторыя лічбы ўстарэлі, аб іх пісалася ў нашым часопісу некалькі месяцаў таму назад. Дасылайце матар'ял аб тым, як ідзе сяўба і што практычна зроблена па ажыцьцяўленьні рашэньняў 3-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў, у прыватнасьці, як абстаіць справа з пераходам на зьдзельшчыну.


Адказны рэдактар—**Рэдкалегія:**
**Аўчыньнікаў Т., Бондар Г., Паніматка, Самусевіч, Сямашка С.**

**ЦАНА 15 кап.**

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

Падпісвайцеся
— НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"

**Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі"**

## Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў

Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць

часопіс **„ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТО-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 год | — 24 | нумары. | . . 3 руб. |
| „ 6 мес. | —12 | „ | . . 1 „ 50 к. |
| „ 3 „ | — 6 | „ | . . — — 75 „ |
| „ 1 „ | — 2 | „ | . . — — 25 „ |

**Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу**

**Адрас рэдакцыі часопісу:**

***г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.***

Друкарня імя Сталіна Заказ № 833 ... 5.000 ...